ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

25 красавіка 1997 г. № 17/3893 Кошт 3 000 руб.





*Народжаны пасля Чарнобыля...*

*Фота Я. Коктыша*

## АКОЛА ДЗЁН

***Заўтра — чарговая чорная гадавіна. Адзінаццаць гадоў ужо Беларусь жыве пад знакам Чарнобыля. Але з гадамі трагедыя не аддаляецца ад нас. І аддаляцца не будзе. Аднойчы ўвайшоўшы ў дом кожнага чацвёртага беларуса, яна, на жаль і на жах, не дае пра сябе забыцца. Пачынаючы збывацца самыя змрочныя прагнозы ўрачоў і эколагаў: сапраўдныя наступствы Чарнобыля беларусы адчуюць, зведаюць толькі праз дзесяцігоддзі... Аднак гэта ніколькі не перашкаджае дзяржаўным чыноўнікам ствараць усё новыя і новыя "канцэпцыі" і даказваць у іх бясшкоднасць пражывання людзей нават у зоне "савецкага" адсялення. Беспакаранасць тых, хто ў 1986 годзе рапартаваў Маскве: "абстаноўка ў БССР нармальная, людзі ў раёнах блізкіх да ЧАЭС займаюцца пасяўной...", нараджае новых слюнькоўых, якія замест таго, каб дапамагчы людзям, бласлаўляюць і вітаюць іх вяртанне назад, у 1986 год... "Чарнобыльскі Нюрнберг" павінен адбыцца хоць бы дзеля таго, каб не пладзіць новых злачынцаў і іх новых, ні ў чым не вінаватых, ахвяр...***

### ВІЗІТ ТЫДНЯ

У нядзелю ўвечары прэзідэнт Беларусі з прадстаўнічай дэлегацыяй накіраваўся з рабочым візітам у краіны Паўднёва-Усходняй Азіі: Паўднёвую Карэю, В'етнам і Кітай. Візіт даўно запланаваны і разрэкламаваны. Практычна адрынутая Еўропай Беларусь скіравала свой погляд на Азію. Надзеі на паўднёва-азіяцкае турнэ ўскладваюцца вялікія. І ў эканамічным плане, і, зразумела, у палітычным. Праўда, крыху падпсавала ўражанне аб значнасці візіту паведамленне, што якраз у гэтыя дні кіраўнік Кітая Цзянь Цзэмінь, з якім запланавана сустрэча, адбыў з піцідзённым візітам у Маскву, дзе падпісаны ўжо дужа важныя дакументы між Расіяй і Кітаем. Аднак шляхі беларускага і кітайскага лідэраў павінны перасекчыся. Тады і даведаемся мы, наколькі рэальнае далучэнне Мінска да ўжо створанай без нас восі Пекін—Масква.

### СЕНСАЦЫЯ ТЫДНЯ

У канцы траўня прэзідэнт Расіі Б. Ельцын плануе падпісаць ад імя сваёй краіны дагавор з... НАТА. Такім чынам шматгадовая барацьба беларускага кіраўніцтва супраць пашырэння НАТА на ўсход, можа быць перакрэслена ў адно імгненне. Такім чынам будзе адценена ўся нелагічнасць гэтай барацьбы і яе непатрэбнасць. Такім чынам Беларусі і яе лідэрам будзе паказана іх сапраўднае месца і бессэнсоўнасць іх мітусні пад нагамі ў "тыграў"...

Ці ж хто сумняваўся ў гэтым? І зусім смешныя выглядаюць зараз заявы беларускіх "палітыкаў" аб гатоўнасці "да канструктыўнага дыялога з НАТА..."

### НАЗІРАННЕ ТЫДНЯ

І ўсё ж, абмеркаванне Статута Саюза Беларусі і Расіі дае свой плён. Прынамсі, упершыню за некалькі гадоў мы зноў змаглі ўбачыць на экранах тэлевізараў амаль забытыя твары лідэраў апазіцыі. Але глядзіш тэлевізар і не пакідае думка, што іх (лідэраў апазіцыі) элементарна і бессаромна "скарыстоўваюць", каб паказаць Расіі і свету прысутнасць дэмакратыі ў суверэннай краіне Беларусь...

Асабліва яскрава "чыталася" гэта падчас перадачы, якую вёў знакаміты расійскі тэлежурналіст У. Познер.

### ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"Ідзе абмеркаванне "інтэграцыйных дакументаў". Тэхналогія гэтай дыскусіі па-сапраўднаму, цывілізавана не адпрацавана. І, як заўсёды, будзе аддадзена на водкуп прыдворным чынушам і ангажаваным функцыянерам... Калі на радыё і тэлебачанне, на старонкі дзяржаўных газет не будуць дапушчаныя дэпутаты Вярхоўнага Савета 13-га склікання — нашага законнага парламента! — і прадстаўнікі апазіцыі, то паўторыцца "хохма", падобная да лістападаўскага "рэферэндуму"... Яшчэ нідзе, ні ў адной краіне свету не ўдалося пабудаваць нармальнае жыццё грамадства, папіраючы свабоду, закрываючы рот друку, галоснасці, саджаючы ў турму тых, хто думае інакш... Эмбарга на свабоду рана ці позна прывядзе да татальнага каўбаснага дэфіцыту. А то і да бунту — бессэнсоўнаму і бязлітаснаму".

*(З артыкула Аляксандра Альхоўскага "Хочацца стаць калмыкам", "Народная воля", 22 красавіка г. г.)*

### ФАКТ ТЫДНЯ

Здаецца, на Беларусі ўжо змірыліся з тым, што рана ці позна ў нашай небагатай на паліва краіне будзе пабудавана свая АЭС. Распачата ўжо абследаванне некалькіх пляцовак, дзе яна можа быць размешчана. Як ні дзіўна, вышукі вядуцца ў асноўным у самай "чыстай" (ад чарнобыльскага забруджвання) вобласці Беларусі — Віцебскай... Між тым з Украіны прыходзяць весткі, што і нашыя суседзі мяркуюць пабудаваць яшчэ адну АЭС. Дзе? У чарнобыльскай зоне...

### ПЕРАМОГА ТЫДНЯ

Зборная Беларусі па хакеі стала чэмпіёнам свету ў групе "В" і заваявала права на наступны год выступаць у групе "А" — далучыцца да такіх грандаў сусветнага хакею, як Канада, Чэхія, Фінляндыя, Швецыя, Расія... Прэзідэнт Беларусі даслаў хакеістам віншавальную тэлеграму з Карэі, а віцэ-прэм'ер У. Русакевіч на ўрачыстым прыёме ў гонар перамогі ўручыў трыумфатарам грашовыя прэміі ў беларускіх рублях, роўныя прыблізна 1000 даляраў.

### НАМЕР ТЫДНЯ

Заўтра, 26 красавіка, у Мінску адбудзецца традыцыйны Чарнобыльскі шлях — шэсце па вуліцах горада ад Акадэміі навук да Палаца спорту. Улады, пасля доўгіх перамоў, далі дазвол на правядзенне яго. Пачнецца шэсце ў 15 гадзін ад, зразумела, Акадэміі навук.

Найбольшае значэнне і гарвыканкам, і міліцыя, і арганізатары надаюць захаванню грамадскага парадку падчас шэсця. Асабліва ў святле слоў-папярэджання прэзідэнта перад адлётам у Карэю, што спробы справакаваць "масавыя беспарадкі" ў гэты дзень "будуць расцэньвацца як спроба дзяржаўнага перавароту з усімі вынікамі". На жаль, можна канстатаваць, што апошнім часам карälі ў нас не правакатараў, а арганізатараў мітынгаў ці справакаваных удзельнікаў...

З НАГОДЫ

# Да Беларусі — праз Чарнобыль

Калі думаеш пра Чарнобыль, калі вяртаешся да памяці, дык шкадуеш не сябе, а найперш людзей, якія непасрэдна пацярпелі ад аварыі. Бо, сапраўды, праграма перасялення правалена, а тыя, каму пашчасціла перасяліцца, адчуваюць сябе на новых месцах не надта ўтульна. Каб пасяліць іх у новыя кватэры, пазбавілі надзеі на навакселле ў акрэсленай перспектыве тых, хто шмат гадоў чакаў сваёй чаргі. Гэта не спрыяе паразуменню і добрым стасункам. Кожнай восенню мы запасаемся на зіму гароднінай. У многіх гара джан сваякі на вёсцы. Адтуль і бульба. А скуль бульба ў перасяленцаў? Зразумела, што з чарнобыльскіх агародаў.

Гуманітарная дапамога з Захаду ахоплівае нязначны працэнт тых, каму яна неабходная. Бо, па-першае, ва ўмовах міжнароднай ізаляцыі Белрусі немагчымыя і буйнамаштабныя праграмы дапамогі, усё замыкаецца на прыватных ініцыятывах — а гэтага відавочна недастаткова. Падругое, нават гэтая сціплая (у параўнанні з рэальнымі патрэбамі і рэальнымі магчымасцямі, калі б усё было на добры лад) крыніца можа быць перакрытая. Таму што ўлады вырашылі абкладаць гуманітарную дапамогу падаткамі, нібыта гэта камерцыйная дзейнасць.

І раней мала каму з беларусаў было даступным аздараўленне за мяжою. Цяпер іх будзе яшчэ менеі. За свае грошы далей Ждановічаў не выберашся, а грамадскія фонды, кшталту "Дзяцей Чарнобыля", вядомы ў народзе як "фонд Грушавога", вымушаны зварочваць сваю дзейнасць, бо на іх маёмасць, грошы і сувязі паклала вока ўлада.

Логіка ўлады простая і зразумелая. Падпарадкаваўшы сабе грамадскія фонды, улада забівае адным стрэлам двух зайцоў. Змяншае поле грамадскай самадзейнасці. Непрыхаваны цынізм улады ўжо не ўражвае, у нашай краіне гэта ўжо завядзёнка, звыклая з'ява. Спекулюючы на чарнобыльскай бядзе, улада спрабуе выцiгаць на Захадзе грошы. І адначасова стварае бюракратычныя, мытныя і падаткавыя кардоны паміж дабрачыннымі фондамі Захаду і пакутуючымі чарнобыльцамі Беларусі.

Праўда, трэба адзначыць, што пачалося ўсё гэта яшчэ ў Савецкім Саюзе. Памятаеце, каму была перададзена большая частка добраахвотных грашовых ахвяраванняў, тых самых працоўных рублёў, сабраных па ўсім Саюзе для ахвяр чарнобыльскай катастрофы? Гэтыя грошы пайшлі на кампенсацыю стратаў... Мінатамэнерга. Не людзям, якія пацярпелі ад бязглуздай палітыкі Мінатамэнерга, а самому Мінатамэнерга.

У Савецкім Саюзе аварыі на ядзерных аб'ектах бывалі і раней, але інфармацыя аб гэтым рэдка выходзіла за межы шчыльнага кола прафесіяналаў. І выбух у Чарнобылі, без сумнення, таксама паспрабавалі б схаваць ад грамадства. Але выбух адбыўся не ў Сібірскай тайзе альбо ў пустэльні Каракумы, а ў пункце, адкуль у прынцыпе недалёка да Парыжа і Брусселя. Замаўчаць катастрофу не атрымалася, былі спробы зменшыць яе маштабы.

Міхаіл Гарбачоў, апошні кіраўнік СССР, выступіў па нацыянальным тэлебачанні з паведамленнем аб аварыі толькі праз два тыдні пасля самой падзеі. Прычым у яго выступленні не было нічога звыш таго, што людзі ўжо ведалі. Уласна кажучы, мэтай таго выступлення было не клопат аб пацярпелых, а выратаванне прэстыжу бяздарнай улады, якая ў экстрэмальнай сітуацыі, як звычайна, разгубілася і бяздзейнічала, спадзеючыся, што ўсё неяк само сабой уладкуецца. Ды спадзяванні тыя былі марныя, зноў жа — сусветны розгалас...

Адна з маскоўскіх газет тады пісала: "К счастью, ветер дул не на Киев". Так, сапраўды вецер дзьмуў у супрацьлеглы бок, на Беларусь. Я не думаю, што жыхары гарадоў і вёсак Беларускага Палесся лічылі, што гэта "к счастью". Што, "к счастью", іх зямля, вада і паветра сталі небяспечнымі для жыцця.

Сёння ўлада РБ, як калісь улада СССР, дэманструе няздольнасць вырашыць чарнобыльскія праблемы. За адзінаццаць год, што прайшлі з часу чарнобыльскай катастрофы, пазітыўных зрухаў у барацьбе з наступствамі Чарнобыля няма. І, трэба думаць, што самае кепскае яшчэ наперадзе. За сённяшнюю абыякавасць беларусаў да свайго лёсу плаціць будуць нашы нашчадкі.

Ліквідацыя наступстваў Чарнобыля патрабуе вялікіх сродкаў. Можа быць тры крыніцы фінансавання. Першая: Расія, як правапераемніца СССР, плаціць Беларусі чарнобыльскія даўгі. Але "інтэгравацца" і адначасова патрабаваць чагосьці ад Расіі — немагчыма. Другое: заходнія інвестыцыі. Але ігнараваць міжнародныя стандарты ў галіне правоў чалавека, увязвацца ў расійска-натаўскую спрэчку на баку Расіі і спадзявацца на прыхільнасць Захаду — таксама немагчыма.

Трэцяя і, бадай, самая надзейная крыніца — рэфармаваная нацыянальная эканоміка. Але і гэта праблематычна, бо замест рэформаў беларускаму народу прапаноўваюць "інтэграцыю". Рэформа эканомікі магчымая толькі на грунце дэмакратыі, павагі правоў чалавека. А гэта ў нашай краіне сёння цяжка нават уявіць.

І ўсё ж іншага шляху няма. Рэфармаваная эканоміка прыцягне заходнія інвестыцыі, заходні вектар нейтралізуе ўсходні ўплыў. Адпадзе патрэба прагінацца перад Масквою за нафту і газ. Можна будзе і нагадаць пра чарнобыльскі доўг СССР Беларусі.

Каб вырашыць чарнобыльскую праблему, трэба аднавіць дэмакратыю ў нашай краіне. Сёння ўсялякія аб'яднанні чарнобыльцаў — перасяленцаў, ліквідатараў, чарнобыльскія фонды — па сутнасці, з'яўляюцца таварыствамі самадапамогі. Яны існуюць з ласкі ўлады і дзякуючы замежнай дабрачыннасці. Яны цураюцца палітыкі. Яны просяць, у той час як маглі б патрабаваць. Але для гэтага трэба найперш навучыцца сябе паважаць. Патрабаваць, зразумела, трэба не ад Захаду, які нам нічога не вінен (дзякуй і за тое, што дае), а ад сваёй дзяржавы, ад тых, хто на чале яе. Чарнобыльцы, аб'яднаныя ў адзіную, моцную, нацыянальна арыентаваную палітычную арганізацыю, змаглі б адыграць у беларускай гісторыі ролю, падобную да ролі "Салідарнасці" ў гісторыі Польшчы.

А, зрэшты, чарнобыльцы — гэта хто? Гэта ўсе мы, грамадзяне Беларусі, беларуская нацыя. Гэта ўсе мы за выключэннем, зразумела, прыхаднаў, гатовых гандляваць нашай дзяржавай. Але не пра іх гаворка ў гэты жалобны дзень...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

ЮБІЛЕЙ

# Свята атрымалася

У самага любімага дзецьмі Беларусі часопіса "Вясёлка" — 40-гадовы юбілей. 20 красавіка юбілярку — "Вясёлку" віншавалі ў будынку тэатра музычнай камедыі. Зала была паўнюткай — і партэр, і балкон, і ложы былі занятыя ў асноўным гарэзнымі малымі чытачамі часопіса. У фае, дарэчы, можна было бясплатна займець яго юбілейны, 4-ы нумар, а таксама набыць цудоўна выдадзенае пры дапамозе выдавецкай фірмы "Красіко" "Выбранае" "Вясёлкі" за 40 год яе існавання.

Вечарыну вёў галоўны рэдактар часопіса Уладзімір Ліпскі з маленькімі памочнікамі — Васем Вясёлкіным і Васілінкай, ажыўшымі персанажамі часопіса. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь даслаў "Вясёлцы" сваё віншаванне, якое і было зачытана на пачатку святкавання. Далей прагучалі віншаванні ад шматлікіх грамадскіх і дзяржаўных арганізацый — Міністэрству культуры і адукацыі, Дзяржаўнага камітэта па друку, дзіцячых фондаў, рэдакцый іншых выданняў краіны. Даслалі свае віншаванні і ўкраінскі "Барвінок", і расійскі "Мурзилка". На супрацоўнікаў і сталых аўтараў часопіса сыпацца сапраўдны "дождж" ганаровых грамат і прэмій. А сама "Вясёлка" прысудзіла прэмію і медаль імя Васіля Віткі лепшаму аўтару года — пісьменніку Івану Муравейку. Кранальным было віншаванне любімага часопіса маленькай мастачкай Таняй Гушчай, дзяўчынкай з нялёгкім лёсам, але светлым талентам. З цікавасцю ўспрымалася і выступленне навучэнцаў Віленскай беларускай школы, якія прыехалі разам са сваімі настаўнікамі, каб павіншаваць "Вясёлку", бо яна мае чытачоў і прыхільнікаў паўсюль, дзе жывуць беларускія дзеці.

Урачыстыя афіцыйныя віншаванні перамяжаліся выступленнямі маленькіх артыстаў. Але, бадай, самы запамінальны момант адбыўся, калі першы мінскі хлебазавод вывез на сцэну свой падарунак — вялізную піраміду з тартоў, збудаваную ў форме лічбы 40. Салодкага падарунка хапіла на ўсіх гледачоў, якія з задавальненнем паласаваліся ім у фае падчас перапынку.

Потым быў паказаны музычны спектакль "Прыгоды ў замку Алфавіт", сюжэт якога ўзяты з твораў Уладзіміра Ліпскага. Спектакль, трэба зазначыць, вельмі маляўнічы і займальны.

Свята атрымалася. Тым болей супала яно з праваслаўнай Вербнай надзеляй. Думаецца, пасля яго чытачоў у "Вясёлкі" прыбавіцца.

**Н. К.**

# Садружнасць, Супольніцтва, Саюз...

***1. Ваша стаўленне да інтэграцыі Беларусі і Расіі ўвогуле.***
***2. Ваша ацэнка падпісаных 2 красавіка ў Маскве дакументаў і прапанаванага да ўсенароднага абмеркавання Статута Саюза Беларусі і Расіі.***
***3. Вашы меркаванні наконт перспектыў расійска-беларускіх адносін і ў звязку з гэтым — будучыні незалежнай Беларусі.***
***На пытанні "Ліма" адказваюць:***

**Іван ЧЫГРЫН, пісьменнік:**

— Толькі самастойная, незалежная, суверэнная, вольная Беларусь можа даць свайму народу адлаведнае жыццё — годнае, культурнае, багатае, зробіць гаспадаром у сваёй хаце, вёсцы, горадзе, дзяржаве, дапаможа нам стаць тымі, каго будуць знаць, з кім будуць лічыцца добрыя людзі ўсяго свету. Шанаваць, паважаць, цікавіцца — намі, нашай культурай, гісторыяй, навукай, сённяшнім і мінулым, не толькі людзьмі, але і прыродай, рэкамі, азёрамі, будоўляй, песнямі, казкамі, нашай музыкай, спортам нашым. Твару ідэал? Магчыма. Нават правільна — ідэал, арыенцір таго, што кожнаму народу патрэбна, куды яму ісці, да чаго імкнуцца, тым больш што мы ўсяго некалькі гадоў як набылі суверэннасць, яшчэ напоўніцу не адчулі яе смаку, яе жыццядайнасці, жыццесцвярджальнасці. Ніводзін у свеце народ па ўласнай волі не выракаецца ўласнай незалежнасці. Змагаюцца людзі за яе стагоддзямі. Змагаюцца ледзь не за кожны сантыметр свае зямлі. І нам незалежнасць далася не лёгка. Дык чаму мы мусім яе некаму аддаваць? Расіяне не думаюць аддаваць сваю. Не дапускаюць думкі нават, што пасля падпісання Саюза з Беларуссю ў агульнай дзяржаве будзе не руская, а беларуская мова дзяржаўнай, што не рускія рублі, а беларускія "зайчыкі" стануць тады агульнай валютай, што на новай саюзнай — беларускай — тэрыторыі замест рускіх будуць ствараццa беларускія універсітэты. Наадварот, адкрыта гавораць пра ператварэнне Беларусі ў адну з губерняў Вялікай Расіі, кажуць, што Беларусь ім патрэбна як геастратэгічнае поле (у выпадку вайны хай на нас валяцца бомбы, як тое не раз было ў гісторыі), прэтэндуюць на нашы фабрыкі, заводы, не прымаюць нашых сімвалаў, сцягоў. Небеларуская гэта палітыка, якою займаюцца нашы афіцыйныя ўлады на працягу некалькіх апошніх гадоў. Ні ў грош не цэняць гонар беларусаў. Не думаюць пра свой народ. Не думаюць пра сваю эканоміку. Не думаюць пра сваю культуру. У лепшым выпадку пра ўласныя інтарэсы думаюць. Адным росчыркам пяра могуць перакрэсліць тое, за што на працягу стагоддзяў змагаўся наш народ. То якімі ў такім разе могуць быць адносіны да падобных інтэграцыйных намераў? Адмоўныя. Толькі адмоўныя. Іншага не дадзена, як толькі адказаць на ўсё гэта крыкам абражанай праз стагоддзі вольнай душы. Не! Не! Не! Нават калі пад інтэграцыяй разумеецца ўсяго толькі эканамічнае яднанне. Чаму не наладжваць узаемаадносіны, як вольны з вольным? Усе былыя савецкія рэспублікі, суверэнныя цяпер, з тым ці іншым поспехам, але робяць гэта, а мы што — горшыя? Не патрыёты прагнуць Саюза Беларусі з Расіяй. А калі патрыёты, то не нашы!

**Ф. ШКІРМАНКОЎ, інвалід ВАВ, г. Слаўгарад:**

— Маё стаўленне да інтэграцыі Беларусі і Расіі ў тым выглядзе, як гэта закладзена ў падпісаным Ельцыным і Лукашэнкам дакуменце, вельмі насцярожанае, каб не сказаць — адмоўнае.

У тэксце гэтага дагавора няма і намёкаў на эканамічную інтэграцыю. Бо эканамічная інтэграцыя перш за ўсё прадугледжвае агульны рынак тавараў, паслуг, каштоўных папер і г. д. Бо менавіта гэтыя ўмовы з'яўляюцца гарантам сапраўды эканамічнага збліжэння і выгод для абедзвюх краін.

А што хаваецца за словамі аб адзінай валюце з адзіным эмісійным цэнтрам у Маскве? Аўтары гэтага тэксту сцвярджаюць, што, маўляў, паглядзіце на Заходнюю Еўропу, яны вось-вось увядуць адзіную для краін ЕЭС валюту, вось і мы будзем не збоку прыпёку. Але пры гэтым ні слова не гавораць, што краіны Заходняй Еўропы не адно дзесяцігоддзе ішлі ў эканамічных пытаннях насустрач, пакуль эканомікі кожнай краіны блізка не падышлі адна да адной, і толькі пасля гэтага ўтварыўся ЕЭС. І размова пра адзіную валюту з'явілася заключнай фазай эканамічнай інтэграцыі, калі ўжо запрацаваў агульны рынак.

Паспешлівасць і эклектыка гэтага дагавора прымушае задумацца: што за гэтай паспешлівасцю крыецца?

Нічога карыснага для грамадзян Рэспублікі Беларусь гэты дагавор не прынясе. Не прынясе таму, што і Лукашэнка, і Ельцын укладваюць у яго зусім іншыя намеры, якія нічога агульнага не маюць з эканамічнымі праблемамі.

Сапраўды, што перашкаджала за мінулы год напоўніць практычнымі дзеяннямі, скіраванымі на аздараўленне эканомікі, падпісанае ў красавіку 1996 года двухбаковае пагадненне? Хіба сёння той, хто мае грошы, не можа з Беларусі паехаць у любы куток Расіі? Хіба пасля ратыфікацыі гэтага дагавора Ельцын, замест таго, каб разлічыцца з запазычанасцю па зарплаце і пенсіях расіянам, накіруе гэтыя грошы на ўздым беларускай эканомікі?

Сёння ў Расіі ў сувязі з катастрафічна нізкім зборам падаткаў рубам пастаўлена пытанне аб тэрміновым пераглядзе ў бок скарачэння расходнай часткі бюджэту.

Дык што ж застаецца? Застаецца геапалітыка імперска-сталінісцкага кшталту.

На сённяшні дзень Рэспубліка Беларусь — адзіная краіна Еўропы, у якой дэпутаты заканадаўчага вярхоўнага органа не абраны, а прызначаны прэзідэнтам. Таму, на маю думку, магчымы два варыянты будучыні Беларусі. Адзін — гэта поўная страта незалежнасці, калі Беларусь будзе праглынута Расіяй і ўвойдзе ў яе склад на правах суб'екта Федэрацыі цалкам, або кожная вобласць паасобку. Другі — гэта фіктыўнае захаванне незалежнасці з фактычным пераходам галоўных прамысловых прадпрыемстваў Рэспублікі Беларусь у рукі расійскіх дзялкоў.

Але пры гэтай змрочнай перспектыве ёсць адна акалічнасць, якая зможа выратаваць Беларусь. Калі падпісаны дагавор будзе ратыфікаваны сённяшняй нелегітымнай Палатай прадстаўнікоў, ён будзе адразу ануляваны першым законна абраным Вярхоўным Саветам.

Беларусь — вельмі прывабны кавалак у геапалітычнай гульні НАТА—Расія. Вось чаму наш прэзідэнт дазваляе сабе далёка не дыпламатычныя дывертысменты ў бок Расіі, пагрозліва выказваецца ў бок НАТА, а "дэмакрат" Ельцын "не заўважае" гвалтоўнага падаўлення ў Беларусі апазіцыі, свабоды слова і права на дэманстрацыі і пікеты.

ЭКСЛІБРЫС

## "Толькі не гавары маёй маме"

*Адам Глобус. Зборнік інтымнае прозы. "Сучасная літаратура", Мінск, 1995.*

**Прачытаўшы кніжку А. Глобуса, я падумаў пра тое, што ўсё ж такі ў беларускай літаратуры, у прозе ў прыватнасці, за апошнія дзесяць гадоў штосьці адбылося. Калі параўноўваць літаратурны працэс з плынню ракі, дык, здаецца, беларуская літаратурная рака зараз віхлянула ўбок са свайго звычнага рэчышча і пацякла зусім не туды, куды яе несла раней.**

**Традыцыяналізм ранейшай беларускай культуры, якую так удала кансервавалі і аберагалі ў сваіх творах пісьменнікі, вяскоўцы па паходжанні, няўмольна плыгчэ. І адбываецца тое, пра што неаднаразова казалася раней: у літаратуру прыходзіць гарадскі беларус са сваёй сістэмаю каштоўнасцяў і каардынатаў і прыводзіць туды такога ж самага, як ён, героя.**

**Тым не менш, чытаючы А. Глобуса, адзначаеш, што ў характары гэтага новага гарадскога беларуса можна знайсці шмат чаго знаёмага нам ужо з ранейшай нашай літаратуры. Вось ён бегае па Амстэрдаме і пакутліва шукае прыбіральню, думаючы, што і на вуліцы няёмка, і да прастытуткі не пойдзеш пытацца пра клазет, і адзінае ягонае выратаванне — гэта ягоны нумар у пяцізорачным гатэлі. А што зрабіў бы рускі на месцы гэтага беларуса? Прачытайце Эдзічку Лімонава пра ягоныя прыгоды ў Нью-Йорку і стане зразумелай тая вялікая розніца паміж нацыянальнымі стэрэатыпамі паводзінаў нашых народаў.**

**Я. Колас прысвяціў цэлы раздзел паездцы дзядзькі ў Вільню. Хаця ён і не пісаў там пра натуральныя патрэбы дзядзькі, бо гэта былі іншыя часы, але героі Я. Коласа і А. Глобуса падаюцца да болю знаёмымі, бо ў іх адзіны нацыянальны архетып, адзіная рэакцыя на вонкавыя раздражняльнікі. У гэтым, нягледзячы на ўсю навізну тэм у прозе А. Глобуса, дзе мастацтва ў яго змешана з каханнем, секс з падарожжамі, а развагі пра Купалу з развагамі пра Гагена і Ван Гога, яны падобныя. Усё роўна, ці яны выязджаюць з вёскі і ўсё жыццё потым заваёўваюць горад, ці яны выязджаюць з роднага Мінска, каб гэтаксама заваёўваць, да прыкладу, Амстэрдам. Яны, беларусы, застаюцца аднолькавымі. Ім паўсюль прыходзіцца бараніць сваё далікатненькае беларускае "я" і нідзе яны не адчуваюць сябе лепей, як у сваім куце, ці гэта хата ў роднай вёсцы, ці гэта нумар у пяцізорачным гатэлі.**

**Прайшло сто гадоў, а што змянілася? "Не люблю я места (па расейску — горад). Надта там цяснота і вялікі сморад" — пісаў Ф. Багушэвіч у "Дудцы беларускай". А вось герой А. Глобуса сядзіць на аэравакзале ў Амстэрдаме, паглядае на нічыйны зялёны пакунак, які стаіць на суседнім крэсле, і разважае: "Вось табе, Адам Глобус, і Амстэрдам, зараз раздзярэ цябе выбухам на шматкі і, акрамя выразнага радка ў некралогу "Загінуў у Амстэрдаме", нічога добрага не будзе".**

**Тым не менш, на прыкладзе творчасці А. Глобуса мы бачым, што горад, як і ўвесь свет, не з'яўляецца бясспрэчна згубнай з'явай для беларуса. Ён можа і павінен з'есці яе, ператравіць і застацца самім сабой.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

# "Гендэрная асіметрыя"

## альбо Як з балота цягнуць бегемота

Заўважана, што ў цяжкія, крызісныя часы кожнае грамадства звяртаецца да жанчын, ды і самі яны актывізуюцца, згуртоўваюцца і нават пераходзяць да публічных акцый. Аднак "вулічнай" дэмакратыі мала. Трэба вучыцца, авалодваць тэхналогіяй улады, бо без гэтага жанчыны як былі, так і будуць на перыферыі палітычнага жыцця.

Росту самасвядомасці і палітычнай асвеце жанчын служаць семінары Жаночага хрысціянска-дэмакратычнага руху (пра іх "ЛіМ" неаднойчы пісаў). Чарговы з іх меў назву "Жанчыны ў сферы прыняцця рашэнняў". За гэтай абцякальнай фармулёўкай паўстае пытанне ўдзелу жанчын ва ўладных структурах.

Да тых лічбаў, што ўжо прыводзіліся, дададзім яшчэ некалькі: у Палаце прадстаўнікоў — 5 жанчын, у Савеце рэспублікі — 19 (з іх 7 прадстаўляюць дырэктарскі корпус). Колькасны рост у параўнанні з ВС вынікае з паблажлівасці прэзідэнта: "Надо же и этим бедолагам дать место в парламенте..."

У апошнія гады назіраецца рост прадстаўніцтва і ва ўрадзе. У 17 з 27-і міністэрстваў жанчын звыш паловы; гэта міністэрствы статыстыкі, юстыцыі, гандлю, фінансаў і іншыя. Тут няма заслугі жанчын: проста адбываецца адток мужчын з дзяржаўнага сектара ў прыватны, дзе больш магчымасцей для самарэалізацыі, і вызваляюцца месцы.

Найбольш фемінізавалася юрыспрудэнцыя. У рэспубліцы 286 суддзяў-жанчын, 63% — адвакаты, 96% — натарыусы. Калі згадаць грамадскі статус медыцыны і адукацыі, то становіцца зразумелым, з чым у нас звязана падзенне аўтарытэту судовай улады.

Пры такім тэмпе росту спатрэбіцца не менш чым 450 гадоў для дасягнення фактычнай роўнасці полаў, зазначыла супрацоўніца Цэнтра гендэрнай палітыкі і інфармацыі І. Чуткова.

Палітолаг С. Навумава пракаменціравала вынікі апытання 27-і жанчын, што займаюць кіруючыя пасады ў розных галінах. Пераважная большасць апытаных лічыць, што іх патэнцыял выкарыстоўваецца неадэкватна, што службовую кар'еру жанчыне зрабіць не так проста, аднак жа пытанняў, з гэтым звязаных, на сваім узроўні яны не падымаюць.

Сацыялагічнае апытанне выявіла і такую характэрную дэталь: амаль усе жанчыны пры пасадах адзначаюць некампетэнтнасць сваіх начальнікаў.

Тым не менш, яны не вельмі спрыяюць сваім каляжанкам у плане кар'еры. Палітычныя інтарэсы жанчын не сфармуляваны, не праяснена сама праблема — наяўнасць дыскрымінацыі па прыкмеце полу, непрыманне жаночай ідэі, якой нічым нельга абгрунтаваць, акрамя як патрыярхальнымі звычкамі дужай паловы. Мужчыны ў справе прасоўвання па службовай лесвіцы паспяхова скарыстоўваюць асабістыя сувязі і карпаратыўныя інтарэсы. Іх палітыка — палітыка сілы, канфрантацыі, і "бруд" гэтай сферы ў многім вынікае з чыста мужчынскіх падыходаў, з занядбання права і прынцыпаў маралі.

Л. Пеціна, старшыня ЖХДР і арганізатар вышэйзгаданага цыкла семінараў "Пекінскія стратэгіі — беларуская перспектыва", якраз і спынілася на пытанні ўдзелу жанчын у палітыцы. Раней дэпутацкі мандат быў своеасаблівым дадаткам да пасады, зараз становішча змянілася. Пры апошніх выбарах у ВС (якія так і не былі завершаны) многія з кандыдатак апярэдзілі сваіх уплывовых канкурэнтаў. Жаночыя арганізацыі вызначыліся і палярызаваліся падчас першых прэзідэнцкіх выбараў: яны падтрымлівалі розных кандыдатаў. У 95-96 гадах адбылося канцэптуальнае афармленне жаночых рухаў і партый, у тым ліку жаночай партыі "Надзея". Доля жанчын у іншых партыях таксама досыць значная, але ў кіруючых органах іх мала. І самы значны разрыў — 50% у партыі і 2% у кіраўніцтве — мае месца ў БНФ. Практычна гэта азначае, што на жанчын абапіраюцца, але не дапускаюць іх да выпрацоўкі стратэгіі і тактыкі.

Сёння мяняецца сэнс такіх паняццяў, як "улада", "палітыка", "лідэрства", і самы час усвядоміць адну простую рэч: палітыка — занадта адказная справа, каб давяраць яе толькі мужчынам.

Пра тое ж і пра многае іншае казалі дэпутат ВС 13-га склікання Л. Гразнова і намеснік старшыні партыі "Надзея" С. Бястужава. В. Трыгубовіч, прадстаўніца БНФ, падкрэсліла: апошнія выбары былі змаганнем індывідуальнасцей, а не партый або ідэй, і дай нам Бог дажыць да новых, каб набыты вопыт можна было выкарыстаць.

А. Гапава, старшыня Асацыяцыі універсітэцкіх жанчын, у яркай форме абмалявала сутнасць і паходжанне няроўнасці полаў. "Куды дзяваюцца жанчыны, калі наступае дэмакратыя?" — так пачала яна сваё выступленне. З дзвюх сфераў жыцця — грамадзянскай і прыватнай — жанчыне дасталася другая, дзе яна па-ранейшаму ўладарыць без канкурэнтаў. Пакуль у прыватнае жыццё не прыйдуць мужчыны — бацькі і мужы, датуль становішча не зменіцца. На жаль, у саміх жанчын яшчэ пераважаюць патрыярхальныя погляды. Мы нават правы свае адстойваем не як грамадзянкі, а як біялагічныя істоты. Бо калі мы пратэстуем у калонах дэманстрантаў, то не варта спадзявацца на высакародства міліцыянераў ды амонаўцаў: мы для іх не мацяркі, а парушальніцы парадку.

Пра непаслядоўнасць, супярэчлівасць жаночай свядомасці гаварыла сацыёлаг Н. Яфімава. Калі 65% апытаных — за незалежнасць Беларусі і зноў-такі 65% — за аб'яднанне з Расіяй, то як гэта разумець? "Неразборлівыя" нашы суайчынніцы аднолькава давяраюць і правым, і левым, кідаюцца ў крайнасці, праяўляюць залішнюю эмацыянальнасць.

Дэмакратыя без жанчын — не дэмакратыя. Лідэрству трэба вучыцца. Вось чаму партыя "Надзея" адкрывае "Школу лідэра". Нельга марудзіць і са стварэннем каардынацыйнага савета, які б узгадняў працу каля 20-ці незалежных жаночых арганізацый. Што ў такім савеце ёсць патрэба, яскрава паказала і першая акцыя пратэсту, названая "маршам пустых каструль".

Пра становішча жанчын у сваіх краінах расказалі Ж. Дэмірэй (ЗША) і І. Сапір (Ізраіль). Вопытам палітычнай дзейнасці падзялілася А. Лапінскіне з Партыі жанчын Літвы. Яна ж перадала прывітанне ад лідэра партыі, вядомага палітычнага дзеяча Казіміры Прунскене, якая ў свой час займала пасаду прэм'ер-міністра. У гэтай сувязі, дарэчы, прагучала і імя Голды Мейер, якая ў цяжкія для Ізраіля часы вывела дзяржаву з крызісу.

— Я не пра "гендэрную асіметрыю" буду казаць, — папярэдзіла напрыканцы семінара кіраўнік Кансорцыума жаночых недзяржаўных арганізацый А. Яршова. І сапраўды, мы пачулі інфармацыю пра тое, што нам блізка і чаму варта павучыцца. "Закрытым мужчынскім клубам" назвала расійскі ўрад госця з Масквы, а Савет бяспекі — "Саветам небяспекі".

Семінар, фундатарам якога сталі фонд Конрада Адэнаўэра і Мінскі міжнародны адукацыйны цэнтр, прыйшоў да агульнай высновы: выцягнуць нашу краіну з балота можна толькі сумеснымі намаганнямі, а значыць — пры ўдзеле жанчын. І чым хутчэй гэта зразумее грамадскасць, тым лепш для ўсіх нас.

**НАШ КАР.**

ЛіМ ЧАСАПІС

## Лейтматыў — гісторыя айчыны

**16 красавіка ў Доме літаратара адбылася сустрэча з пісьменнікам, паэтам, гісторыкам Уладзімірам Арловым. Вечарына мела назву "Адкуль наш род" — менавіта так называецца і апошняя кніга Уладзіміра Арлова, выдадзеная пры дапамозе грамадска-культурнага аб'яднання "Бацькаўшчына". Кніга расказвае пра вядомыя і малавядомыя старонкі гісторыі Беларусі. Сустрэча з пісьменнікам адбывалася ў рамках абанементных сустрэч "Тайна знічнага свята" Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зніч". Мастацкі кіраўнік тэатра актрыса Галіна Дзягілева сыграла некалькі ўрыўкаў з монаспектакля "Выгнанне ў рай", які расказвае пра лёс полацкай князёўны Рагнеды. Сюжэт спектакля добра ўпісаўся ў сцэнарый сустрэчы, лейтматывам якой была беларуская гісторыя. Да таго ж герой вечарыны Уладзімір Арлоў — зямляк Рагнеды, палачанін, і не раз пісаў пра таямніцы гісторыі роднага горада.**

**У вечарыне ўзялі ўдзел пісьменнікі Пятро Васючэнка і Людміла Рублеўская, сказаў сваё слова і старшыня грамадска-культурнага аб'яднання "Бацькаўшчына" Яўген Лецка. Але асноўная частка вечарыны была аддадзена менавіта дыялогу пісьменніка з чытачамі. Уладзімір Арлоў адказаў на шматлікія пытанні, тры з якіх былі прызнаны цікавейшымі і ўганараваны спецыяльнымі прызамі — кніжкамі з аўтографамі аўтара.**

**Сустрэча адбылася. І з пісьменнікам, асобай, грамадзянінам, як значылася на афішах, і з гісторыяй нашай краіны, якая заўсёды будзе мець сваіх рыцараў-абаронцаў, гісторыкаў і пісьменнікаў.**

**Н. К.**

## Кацярына II у Гомелі



**У сваім падарожжы, як і больш за дзвесце гадоў назад, едучы на поўдзень, Кацярына II наведала Гомель. Праўда, цяпер у лялечным абліччы. Акрамя царыцы, можна ўбачыць на выставе васковых фігур Санкт-Пецярбургскага музея яшчэ шмат гістарычных дзеячаў мінулага стагоддзя. Выстава адкрылася ў грамадска-культурным цэнтры.**

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

## "Янка Купала — публіцыст"

**Такая тэма чарговых Купалаўскіх чытанняў. Міжнародны фонд Янкі Купалы, Дзяржаўны Літаратурны музей Янкі Купалы запрашаюць даследчыкаў беларускага культурнага мацерыка на досвед публіцыстычнай дзейнасці аднаго з дойлідаў нацыянальнага Адраджэння, паэта-званара, чыё ваяцкае слова фармавала Беларускую Ідэю.**

**Міжнародная навуковая канферэнцыя пройдзе 20 кастрычніка 1997 г. у Доме Купалы. Аб сваёй згодзе, калі ласка, пішыце па адрасе:**

*220030, г. Мінск, вул. Янкі Купалы, 4. тэл.-факс: 227-79-43; 227-78-66.*

**Просім паведаміць да І жніўня назву даклада, а таксама звесткі пра пасаду, навуковую ступень, службовы і хатні адрас, тэлефон аб факс, па якім можна падтрымліваць з Вамі сувязь. Тэзісы даклада просім даслаць да І верасня.**

**Даклады ўдзельнікаў канферэнцыі будуць выдадзены асобным зборнікам.**

**АРГКАМІТЭТ**

БЫЛО...

# Злавесны цень

### З НАГОДЫ 127-Й ГАДАВІНЫ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ У. УЛЬЯНАВА-ЛЕНІНА

У свеце існуюць розныя сістэмы цэнтралізаванай сацыяльнай інжынерыі, да іх ліку адносяцца апартэід, фашызм і камунізм. На думку шэрагу палітолагаў, фашызм гэта толькі мала арганізаваны варыянт камунізму. Камунізм жа з'яўляецца фіналам фашызму, яго разнавіднасцю, але толькі больш злавесны і жывучы. Кубінскі літаратар Гільярма Кабрэра Інфантэ абмежаваўся кароткай формай афарызма: "Камунізм гэта фашызм бедных" ("Российская газета", 1993 г., 15 кастрычніка).

Пакуль бальшавізм ці фашызм жывыя, — заявіў Б. Ельцын ("Известия", 16 лістапада 1994 г.), — будзе існаваць небяспека гвалтоўнага захопу ўлады. Увесь гістарычны вопыт пацвярджае, што гэтыя ідэолагі прызнаюць толькі сваю манапольную ўладу. Яны могуць выкарыстаць дэмакратычныя механізм толькі для прыходу да ўлады. Але, захапіўшы яе, знішчаюць саму магчымасць выбару народам свайго лёсу. Таму недаацэньваць камуна-фашысцкую небяспеку ў Беларусі проста безразважна. Цяпер важна не паўтарыць памылкі, якая прывяла наша грамадства да трагедыі ў кастрычніку 1917 года, калі абстрактна сфармуляваная бальшавікамі ідэя ў працэсе рэалізацыі стала ўласнай процілегласцю.

Адзінай кіруючай і накіроўваючай сілай нашага грамадства, што было ўзаконена канстытуцыяй, з'яўлялася ў СССР ленінская "партыя". Гэта яна "зарулілa" найбагатую краіну ў гістарычны тупік і падвяла да бездані. КПСС павінна была прызнаць сваю віну за садзеянае, пакаяцца і сысці з палітычнай арэны. Але гэтага не магла дапусціць партыя, якая "перабудоўвалася". Яна абрала іншую тактыку: звальваць усё на сваіх памерлых лідэраў.

Бо куды бяспечней асуджаць не прагнілы бальшавіцкі рэжым, а памерлых дыктатараў, якія нібыта сказілі першасныя марксісцка-ленінскія ідэалы. Пры гэтым партапарат быў гатовы адхрысціцца ад каго заўгодна, толькі не ад галоўнага ідала — Леніна. Міф аб геніяльнасці і прадбачлівасці, чалавечнасці і дабрыні, прастаце і народнасці правадыра — гэта апошняе, што яшчэ хоць неяк ратавала "партыю" ад выкрыцця найвялікшай містыфікацыі. КПСС не была палітычнай партыяй, а таму не мела ніякай ідэалогіі ў прамым сэнсе гэтага слова, акрамя ідэі захопу ўлады і гвалту, калі мэта апраўдвае любыя сродкі для яе дасягнення.

Уся наступная за бальшавіцкім пераваротам у кастрычніку 1917 года вакханалія выцякае з ленінскага пастулата, што "ніякай прынцыповай супярэчнасці паміж савецкім (г. зн. сацыялістычным) дэмакратызмам і ўжываннем дыктатарскай улады асобных людзей няма!" Ужо тады за гэтай сатанінскай ідэяй паследавалі масавыя расстрэлы, дэпартацыі, канцэнтрацыйныя лагеры.

Пазнаёміўшыся з архівамі цёмнай партыйнай гісторыі ("Комсомольская правда", 2 кастрычніка 1991 г.), мы даведваемся пра шмат што, пасля чаго ў масавай свядомасці павінна, здавалася б, трывала ўкараніцца ідэя барацьбы з ленінізмам як чалавеканенавісніцкай дактрынай. У газеце цытуюцца сапраўдныя ленінскія дакументы: "...пастарацца пакараць Латвію і Эстландыю ваенным чынам (напрыклад, "на плячах" Балаховіча перайсці дзе-небудзь мяжу хоць на 1 вярсту і павесіць 100—1000 іх чыноўнікаў і багацеяў)..."; "Пад выглядам "зялёных" (мы потым на іх усё звалім) пройдзем на 10—20 вёрст і перавешаем кулакоў, папоў, памешчыкаў. Прэмія: 100000 руб. за павешанага..." Як можна пакланяцца і лічыць ідэйным правадыром чалавека, у галаве якога нараджаліся такія людаедскія ідэі?!

Яшчэ Г. Пляханаў прадказаў культ асобы Леніна і наогул кіраўнікоў партыі, пабудаванай на такіх пачатках. І праўда, Ленін пакінуў самы глыбокі шрам на твары нашай гісторыі. Вось толькі самы кароткі пералік яго крывавых зладзействаў: расстрэл царскай сям'і, расстрэл і дэпартацыя тысяч невінаватых па сфабрыкаванай справе пра "Кранштацкі мяцеж", знішчэнне і дэпартацыя каля 2 млн. казацтва. Яшчэ пры ім у 1923 годзе разгромлена 70 тысяч цэркваў і знішчаны тысячы святароў, многія з якіх былі пахаваны заўжыва і закіданы трупамі наступных партый расстраляных. Бальшавікі дагэтуль не адмовіліся ад самага страшнага, што нараджае астатнія беды, гэта — самая нахабная хлусня ва ўсім.

Ва ўсіх савецкіх і партыйных сродках масавай інфармацыі безагаворачна падкрэслівалася, што не Ленін развязаў грамадзянскую вайну. Што гэта: невуцтва кіраўнікоў ці вялікі падман народа? Факты, пацвярджаныя дакументальна, выкрываюць віну ў гэтым Леніна і яго партыі. Гэта бачна з ягоных работ. Усяму народу ўбівалі ў галовы ленінскі лозунг "аб ператварэнні вайны імперыялістычнай у грамадзянскую", яго патрабаванні з прыцэлы і без яе масавага тэрору. Ніхто не праліў столькі крыві, колькі бальшавікі, якія лічылі тэрор сродкам для дасягнення мэты. Бо па Леніне маральна ўсё тое, што спрыяе класавай барацьбе пралетарыяту. Што гэта, як не апраўданне гвалту і падмурак наступных зладзействаў яго паслядоўнікаў і перш за ўсё крывавага ката ўсіх народаў, яго вернага вучня Сталіна? Але прызнаць памылкі і зладзействы Леніна для прававерных камуністаў азначае, што бязмэтна пражыта жыццё!

Чаго варты галоўны тэзіс Леніна: "Пры савецкай палітычнай сістэме даць свабоду слова і друку — значыць пакончыць жыццё самагубствам"? Гэта азначае хаванне праўды ў імя сваіх антынародных мэт. У нас цяпер знікла ўнутраная цэнзарства і лягчэй стала дыхаць.

Толькі павярхоўна прыгадвалася аб недаверы Леніна да інтэлігенцыі. Не тое слова: ён яе баяўся, а таму і не любіў. Акрамя таго, бальшавікі, заліваючы грамадства клейкімі плынямі хлусні і сваёй святасці, у той жа час ліслівілі перад пралетарыятам (люмпенам) думкай аб святасці яго гістарычнай місіі. Інтэлігенцыя, у адрозненне ад люмпенаў, здольна мысліць, а значыць, мець сваю ўласную думку аб усім, што адбываецца, што зусім не задавальняла бальшавікоў. Таму інтэлігенцыю яшчэ пры Леніне эшалонамі і параходамі высылалі з краіны, а тыя, хто застаўся, былі канчаткова рэпрэсіраваны пры Сталіне.

Бальшавікі і фашысты, захопліваючы іншыя краіны, пачыналі кіраўніцтва са знішчэння цвету нацыі — інтэлігенцыі. На прыкладзе СССР і краін так званага сацыялістычнага лагера мы ясна бачым, што не можа быць здаровым грамадства, якое пагардліва ставіцца да сваёй інтэлігенцыі.

Дзесяцігоддзямі "рэвалюцыйны клас" пад пільным кіраўніцтвам бальшавікоў разбураў цэрквы, гістарычныя помнікі, культавыя святыні, наіўна мяркуючы, што менавіта гэтым стварае новае жыццё. У той жа час розныя ВЧК, АДПУ, НКУС, згодна тэорыі класавай барацьбы, знішчалі ўсіх, хто быў не згодзен з чалавеканенавісніцкімі тэорыямі бальшавізму. Калі не згодзен, то закляты вораг. Так у краіне падаўлялася ўсялякае іншадумства.

Да месца прыгадаць паэму Някрасава "Каму на Русі жыць добра". На сталбавой дарожцы сем мужыкоў "сошлися и заспорили, кому живется весело, вольготно на Руси". Імі былі пералічаны прадстаўнікі асноўных саслоўяў тагачаснай Расіі, а менавіта: памешчыкі, чыноўнікі, поп, купчына, баярын, царскі міністр і, нарэшце, сам цар. Дык вось, усе гэтыя саслоўі амаль пагалоўна былі знішчаны бальшавікамі, а самі мужыкі-сяляне пазбавіліся зямлі, уласнасці, волі і трапілі ў кабалу, мацнейшую за прыгоннае права.

Немагчыма зламаць навакольнае жыццё, не зламаўшы пры гэтым уласную душу. А людзі са зламанай душой — мяккі воск пад пальцамі фанатыкаў, авантурыстаў. Над імі можна праводзіць колькі заўгодна і якія заўгодна дзікунскія сацыяльныя эксперыменты. Правесці іх скрозь пякельныя кругі знішчэння "класавых ворагаў", да апошняга круга пекла, да 1937 года, да самазнішчэння. Мы ўжо столькі разоў апякаліся на гістарычных спрашчэннях, і зноў пачынаем спрашчаць, брацца за старое.

Ленін памёр 73 гады таму, але яго непахаваны труп прадаўжае тварыць яго чорныя справы. Лозунг бальшавікоў: "Ленін жыў, Ленін жывы, Ленін будзе жыць!", магчыма, і азначае, што яго дух пачаргова перасяляецца ў прадаўжальнікаў "бессмяротнай" справы — крывавай дыктатуры ў СССР на працягу 75 гадоў.

Пра вялікія падзеі мяркуюць па іх выніках. У 1913 годзе Расія займала па розных паказчыках жыццёвага ўзроўню 5—13 месца ў свеце. А "итоги большого пути" выглядаюць так: па вытворчасці валавой прадукцыі на душу насельніцтва ў 1935 годзе СССР займаў 68-е месца, па ўзроўні асабістага спажывання — 77-е месца ў свеце. У наступныя гады становішча ў краіне катастрафічна пагоршылася, і мы з'ехалі на дзесяткі прыступак ніжэй. І ўсё гэта з прычыны "вялікай" падзеі, ажыццёўленай "вялікім" Леніным у кастрычніку 1917 года.

Цяперашнія спробы новых правадыроў неакамуністычных партый розных колераў і адценняў рэанімаваць КПСС з'яўляюцца пачварнай акцыяй, народжанай яшчэ больш пачварным бачаннем мінулага, вяртаннем да жахаў марксізму-ленінізму.

**Барыс ЖАГРЫН**

*г. Мінск*

АНОНС

# Збіраюцца "Музы Нясвіжа"

Бадай, упершыню прэс-канферэнцыя праходзіла... без журналісцкіх пытанняў. Ці амаль без іх. Завіхаліся бордкія пёркі, ціха сакаталі рэпарцёрскія магнітафоны — было што запісваць. Асабліва тым, хто ўпершыню далучыўся да праблем, звязаных з правядзеннем Фестывалю камернай музыкі ў Нясвіжы. Ён пройдзе ўжо другі раз, і арганізатары — Міністэрства культуры, Мінскі аблвыканкам, Нясвіжскі райвыканкам, Беларускі інстытут праблем культуры ды галоўны ініцыятар — Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі на чале з маэстра М. Фінбергам, мастацкім кіраўніком свята, — на аснове лепшых леташніх напрацовак зрабілі насычаную і разнастайную праграму.

Сёлета фестываль набыў імя: "Музы Нясвіжа". За кароткай і ёмістай назвай — тры дні (2-4 мая) прыгожых ды пазнаваўчых імпрэзаў, насычаных знаёмствамі, гутаркамі, дыскусіямі.

У слаўным Нясвіжскім касцёле мае адбыцца прэм'ера аднолькавых твораў нашых далёкіх музычных продкаў: "Рэквіема" В. Казлоўскага ды "Нясвіжскай імшы" тутэйшага аўтара Шымкевіча, партытуру якога перастварыў нядаўна наш сучаснік А. Залётнеў. Выканаўца — Мінскі абласны камерны хор "Sonorus" пад кіраўніцтвам А. Шута.

Музыка Мацея Радзівіла ды Напалеона Орды будзе панаваць на канцэрце з удзелам Камернага аркестра пад кіраўніцтвам В. Сарокі ды Актэта драўляных духавых інструментаў пад кіраўніцтвам Б. Нічкова (абодва калектывы працуюць у складзе Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі). А яшчэ — разгорнецца дзея са спектакля "Барбара Радзівіл" тэатра "Вольная сцэна". Запланавана і выступленне паэта Алеся Разанава.

Адзін з вечароў прысвячаецца творчасці нашых сучаснікаў: Д. Смольскага, Г. Гарэлавай, У. Кур'яна, А. Літвіноўскага, В. Войцiка, С. Янковіча ды іншых. Дарэчы, у Нясвіжскай дзіцячай музычнай школе пройдзе сустрэча з кампазітарамі Беларусі. Сустрэч ды размоў мае быць увогуле багата, бо навуковая канферэнцыя "Музы Нясвіжа" збярэ шматлікіх гасцей: даследчыкаў, дзеячаў культуры, мастацтва... Замоўлены вернісажы ды экскурсіі, выступленні камерных калектываў Міншчыны ў рамантычнай абстаноўцы вясновага парку. У зале музычнай школы знаны піяніст Ігар Алоўнікаў будзе граць музыку Н. Орды і Ф. Шапэна.

А ўрачыстым фіналам фестывалю стане канцэрт віртуознай музыкі: творы В. А. Моцарта і Д. Расіні, Л. Абеліёвіча і Д. Бізэ прагучаць у выкананні Камернага аркестра ды Актэта духавых інструментаў. Потым пад гукі заключнага паланеза выйдуць на сцэну харэаграфічныя калектывы Нясвіжскага цэнтра культуры і адпачынку, і...

І, напэўна, усе ўдзельнікі ды госці адчуюць сябе далучанымі да чагосьці вельмі важнага, святога — таго, што было на нашай зямлі ў далёкія часы; што адраджаецца і ёсць сёння.

**С. Б.**

# “Бездухоўнасць кідае выклік рыцарам высокага духу”

## МАНАЛОГ ЧАЛАВЕКА, АБЦЯЖАРАНАГА ПАЎВЕКАВЫМ ВОПЫТАМ СЛУЖЭННЯ ФІЛАСОФІІ

*Знаёмцеся:*
*Мікалай КРУКОЎСКІ,*
*прафесар Беларускага універсітэта культуры.*

***Нарадзіўся ў 1923 годзе. У 1941-м добраахвотнікам пайшоў на фронт. Трапіў у Вяземскі “кацёл”. Пасля трох няўдалых спроб вырвацца аказаўся ў палоне. Тройчы збягаў, апошні раз удала. Знайшоў дарогу ў партызаны. Пасля вайны скончыў філфак БДУ, абараніў кандыдацкую па мовазнаўстве і доктарскую — па філасофіі прыгожага. Аўтар чатырох манаграфій, у тым ліку: “Логика красоты”. “Homo Pulcher” — Человек Прекрасный”. “Кибернетика и законы красоты”.***

***Вось кароткі запіс яго выказванняў падчас гутаркі з ім. Нават калі б не было знешняга падабенства з галоўным героем Сервантэса, размову з прафесарам Крукоўскім варта было б пачаць са з’явы донкіхоцтва, бо на тое ёсць падставы.***



### З ПУНКТУ ГЛЕДЖАННЯ САНЧА ПАНСЫ

— Звычайна, калі ўспамінаецца імя Дон Кіхота, ва ўяўленні ўсплывае эпізод з ветракамі. У славутым тым эпізодзе наш рыцар бачыцца, аднак, трохі прыдуркаватым: большасць глядзіць на яго вачыма Санча Пансы, у камічным святле. Сутнасць жа гэтай вельмі сімвалічнай і сёння фігуры — трагічная. Яна, сутнасць, раскрываецца ў эпізодзе, дзе рыцар самотнага вобраза, кіруючыся высокімі, “донкіхоцкімі” матывамі, вызваляе катаржнікаў, крануты іх пакутамі, а тыя, атрымаўшы свабоду, бязлітасна яго збіваюць.

### З ЧАГО ПАЧЫНАЮЦЦА ФІЛОСАФЫ

— Філасофія прыцягвала маю ўвагу яшчэ са школы. Адыходзячы ў “партызанку”, у славутую заслонаўскую брыгаду, я захапіў з сабой... томік Гегеля (хіба ж не прыкмета донкіхоцтва? — **У. Т.**). Прачытаць цалкам яго, аднак, не ўдалося, бо хлопцы з атрада, нагледзеўшы, што папера прыгодная на самакруткі, пачалі “чытаць” майго Гегеля з процілеглага боку, і хутка ад вялікага філосафа засталася толькі вокладка.

Магчыма, схільнасць да філасофскіх разважанняў — гэта як абсалютны слых альбо вока мастака. Я і дагэтуль успрымаю філасофскія сістэмы як бязгучныя сімфоніі. Спалучыўшыся з цікавасцю да музыкі і малявання, цяга да філасофіі заканамерна прывяла мяне да эстэтыкі — філасофіі прыгожага, — якая і стала маёй асноўнай прафесіяй.

Аднак дарога да эстэтыкі была не самай прамой. Асвоіўшы з дзяцінства балалайку, гітару і мандаліну, самастойна авалодаўшы нотнай граматай, я марыў стаць музыкантам (чамусьці нават дырыжорам), удзельнічаў у музычных алімпіядах. З мандалінай і на фронт пайшоў з 1-га курса Віцебскага ветэрынарнага інстытута. Потым мне вельмі прыдалося, што з мастацтвам пазнаёміўся і прыродазнаўчых навук пакаштаваў.

Бачу зараз сэнс і ў тым, што не адразу трапіў на філасофскі факультэт — у пасляваенным БДУ яго яшчэ не было. Скончыў філалагічны — без адзінай “чацвёркі”, купалаўскім стыпендыятам. Але ўсё ішло да таго, што трэба мне было ехаць у Баранавічы. “Не рыпайся”, мне казалі, “скажы дзякуй, што універсітэт далі скончыць”. Тое, што на вайну добраахвотнікам пайшоў, у партызанскай дывізіённай групе ваяваў, менш значыла, чым палон і тое, што я пры немцах у Беларускім народным доме ў канцэртах удзельнічаў. Бог існуе, аднак: па рэкамендацыі М. Судніка, тагачаснага выкладчыка мовазнаўства ў БДУ, Кандрат Крапіва, які быў тады дырэктарам акадэмічнага інстытута мовазнаўства, узяў мяне ў свой інстытут.

Кандыдацкую я напісаў аб уплыве рускай мовы на беларускую. Ужо і за доктарскую ўзяўся на зададзеную тэму: “Узаемадзеянне блізкароднасных моў ва ўмовах развітога сацыялізму на матэрыяле беларускай і рускай моў”. Ды толькі адчуў, што не, “патыхае” нейк ад гэтага, маімі рукамі хочуць нешта нядобрае абгрунтаваць. І стаў я ад гэтай тэмы ўсё больш адыходзіць. Да таго ж эстэтыка, якой я займаўся “для сябе”, патрабавала ўсё большай увагі. Веданне ж замежных моў дазволіла не абмяжоўвацца тым, што друкавалася ў краіне, пашырыла мае гарызонты. Я ўжо бачыў абмежаванасць марксісцка-ленінскай эстэтыкі. Але я спадзяваўся, што лунаючы ў разрэджанай, але чыстай стратасферы філасофскіх абстракцый я застануся недаступным для ідэалагічных партыйных цэрбераў.

Нейкі час удалося пратрымацца, пішучы кнігі пра кібернетыку і законы прыгажосці, пра эстэтычныя катэгорыі і да т.п.

Але ўсё-такі дасталі і там, калі я стаў чытаць эстэтыку на беларускай мове і выступаць публічна за адраджэнне нацыянальнай культуры. Гэтага яны стрываць не маглі, і ў самы разгар так званай перабудовы мяне з філасофскага факультэта БДУ выгналі.

### ФІЛАСОФІЯ ЯК РАЗНАВІДНАСЦЬ ДОНКІХОЦТВА

— Філасофія, несумненна, донкіхоцкая прафесія, але я шчаслівы, што прысвяціў ёй жыццё. Філосаф рухаецца да мэтаў, нябачных для большасці або ўспрымаемых як ветракі. Ва універсітэцкія гады, вышаўшы з партызанскіх лясоў, мы ўсе былі трохі Дон Кіхотамі — шчыра імкнуліся служыць народу і адраджаць спаленую вайной Беларусь. За гэтым рамантычным туманам не вельмі выразна бачыліся жудасныя прыметы тагачаснага жыцця — злавесныя Курапаты і архіпелаг ГУЛАГ.

Зараз філасофія здаецца нікому не патрэбнай, і мне часам не хочацца прызнавацца, што я філосаф. Скампраметаваная марксісцка-ленінскай псеўдафіласофіяй, яна страціла ў вачах людзей той арэол таямнічай узнёсласці, што ўпрыгожваў яе, напрыклад, у гегелеўскія часы. Аднак менавіта сёння без філасофіі проста немагчыма зразумець, хто мы, адкуль і куды ідзём. Бо хочацца зазірнуць і за далёкі гарызонт.

Ніцшэ калісьці пісаў, што існуюць толькі дзве перспектывы — арліная і жабіна. Арол бачыць вельмі далёка, жаба ж — толькі тое, што знаходзіцца літаральна ў яе пад носам. Прыгадваюць тут і больш знаёмыя нам вобразы — горкаўскага Сокала і Вужа. Нешта ўсе мы пачалі нагадваць вужоў, і толькі філасофія напамінае нам, што ў чалавека павінна быць гордая сакаліная постаць.

Гэта, зрэшты, добра было б ведаць і нашым палітыкам: нельга замыкацца, напрыклад, на адной эканоміцы, трэба глядзець не толькі пад ногі, але і на неба, каб не страціць тое, што дагэтуль падабецца нам у рыцары з рамана Сервантэса і што з самых старажытных часоў завецца словам “ідэал”.

### ПЮПІТР ДЛЯ ФІЛАСОФСКІХ РУКАПІСАЎ

— Атрымаў я ў “партызанцы” скразное раненне левай рукі, якраз у сустаў (было гэта ўзімку 1943-га). Так што з марамі аб музычнай кар’еры прыйшлося развітацца. Спрабаваў скрыпку і мандаліну на правую руку пераналадзіць, але — не тое. Пюпітр жа спатрэбіўся. Напішу ад рукі артыкул па эстэтыцы, пастаўлю на яго рукапіс і перадрукоўваю на пішучай машынцы. Такое ў мяне гарманічнае спалучэнне філасофіі і мастацтва атрымоўваецца.

Толькі з музыкай я не зусім развітаўся. Калі яшчэ ў акадэміі працаваў, аднойчы ў прафкаме ксілафон убачыў і хутка яго асвоіў. Там не так важна, што адна рука амаль не згінаецца. “Чардаш” Монці граў, “Вальс Дзюрана, “Мроі кахання” Крэйслера.

### ШТО Б СКАЗАЎ ДОН КІХОТ, ГЛЕДЗЯЧЫ НА НАШУ РЭЧАІСНАСЦЬ?

— Тут трэба Сервантэсам быць, каб на такое пытанне адказаць. Але я ведаю, што б ён зрабіў: надзеў бы свае рыцарскія даспехі і рушыў бы ў паход разам са сваім Санча Пансам... Праўда, сёння яго збраяносец ужо не той, і на выбарах можа, напрыклад, прагаласаваць не “за”, а “супраць” Дон Кіхота.

Многія з нас сталі такімі сапсаванымі Санча Пансамі і здрадзілі свайму рыцару. Зараз Санча Панса мог бы нават перабегчы на бок тых разбойнікаў, што білі свайго збаўцу Дон Кіхота. Увогуле, наш цяперашні “амаль-што-светапогляд” — гэта суцэльны, скажам так “санчапансізм”. Паглядзіце толькі, што пішуць нашы газеты і аб чым спрачаюцца палітыкі! Усё ў межах “бліжняга доступу” — эканоміка, улада. Хай даруюць — як жабы ў Ніцшэ. Але ж даўно сказана: “Не хлебам адзіным жывы чалавек”.

Дый з “хлебам” у нас зараз не надта, таму што мы ў прамым і пераносным сэнсе забыліся на Бога. Вось у суседняй Расіі, здавалася б, правялі эканамічныя рэформы. І што? Краінай кіруе чыноўніцкая мафія, а народ як жыў у жабрацтве, так і цяпер жыве. Ды яшчэ і ваяваць тая мафія збіраецца ўсур’ёз, як паказала чачэнская вайна. Вельмі небяспечным асабіста мне падаецца імкненне некаторых нашых палітыкаў да палітычнай інтэграцыі з Расіяй...

А карані іх і нашых праблем — у цяперашняй пачварнай бездухоўнасці і амаральнасці. Маркс назваў некалі рэлігію “опіумам для народа”, і вось цяпер наш абязбожаны, безрэлігійны народ кінуўся да рэальнага “опіуму” — да наркаманіі, п’янства, прастытуцыі і жахлівых крымінальных злачынстваў. А пра эканоміку дык і гаварыць няма чаго: тут самая цынічная і беспардонная “прыхватызацыя”, заснаваная на прынцыпе эгаістычнай матэрыяльнай выгады, якая на нашых вачах зацягвае ў сваё балота і палітыку. Нездарма ж сучасную палітыку людзі называюць “бруднай справай”. А які ўзровень калісьці задаў Гегель? Дзяржаву, гэты галоўны інструмент палітыкі, ён вызначыў як “рэальнасць маральнай ідэі”.

Божа ты мой, як дакладна сфармулявана, калі падыходзіць з высокай меркай, і — як жа нам далёка да гэтага!

### РЫЦАРСКІ ШЧЫТ З СІМВАЛАМ ДУХОЎНАСЦІ

— Так, сучаснаму Дон Кіхоту ёсць за што ваяваць — за адраджэнне дабра і таго, што мы завем духоўнасцю — не заўсёды, праўда, дакладна разумеючы, што яна такое. А духоўнасць, можна сказаць, душа культуры народа, яго самасвядомасць, выяўленая ў рэлігіі, філасофіі, мастацтве і , вядома ж, у мове.

Эканоміку, працягваючы параўнанне, належала б назваць целам культуры. Цела ж без душы — гэта труп. Калі ж эканоміка амаль што мёртвая, ажывіць яе можа толькі духоўнасць. І перш за ўсё, на маю думку, рэлігія. Бо ўся наша бядота, лічу, спароджана ваяўніча-злаславым атэізмам нядаўніх часоў. Нездарма ж выдатны эканаміст Макс Вебер пераканаўча даказаў, што цяперашняе багацце Захаду, на якое мы так зайздросліва паглядаем, лічачы, што яно здабыта выключна імкненнем да асабіста-эгаістычнай выгады, — дык вось, гэтае багацце было створана пераважна пад уплывам пратэстанцкай этыкі. Капіталізм меў некалі свой дух! Але з канца XIX стагоддзя ён амаль што выветрыўся, застаўся адзіны прынцып — правы чалавека. Вось толькі чалавек у іх разумеецца як фізічны, цялесны індывід, якога вядомы англійскі антраполаг Морыс недарэмна назваў “голай малпай”. Гэта адразу ўспамінаецца, як толькі пачынаеш глядзець па тэлевізары ўсялякія эратычныя шоу або “Плейбой” па суботах.

### АЛЕ Ж У ДОН КІХОТА БЫЛА ДУЛЬСІНЕЯ!

— Так, і можна толькі здзіўляцца, як ён ставіўся да яе. Ён проста на яе маліўся, хоць была яна, скажам мякка, далёка не багіня. А што ж цяпер? Жаночая прыгажосць стала звычайным таварам. Асляпляльна прыгожае жаночае цела ўспрымаецца зараз як наш бедны замусолены “зайчык”, абясцэнены глыбокай інфляцыяй.

Жаночай прыгажосцю як навуковай праблемай у былым Саюзе першым заняўся я, і было гэта задоўга да перабудовы (так, і беларусы часам могуць быць першымі!). Падыходы да яе вырашэння былі прадстаўлены ў кнізе “Чалавек Прыгожы”. Мяне тады абвінавачвалі ў фрэйдызме дый проста пасмейваліся: сівізна, маўляў, у бараду... А з майго пункту гледжання, катастрафічнае падзенне і выраджэнне эстэтычнага густу асабліва ясна відаць у адносінах да палавых праблем. Цела ж чалавека створана Богам, і нельга аддаваць яго ва ўжытак д’яблу.

Сёння менавіта гэта і адбываецца. Нам трэба вяртацца да духоўнасці, ды высокіх эстэтычных ідэалаў. Мы замянілі высакароднае чалавечае каханне, гэтае ўвасабленне прыгажосці, цынічным жывёльным сексам, побач з якім заўсёды крочаць прастытуцыя, гвалт і ўвесь злавесны букет крымінальшчыны. Гэта вам ужо зусім не ветракі. Пачвары бездухоўнасці, завалоўваючы ўсё новыя чалавечыя душы, кідаюць выклік сучасным Дон Кіхотам — рыцарам Высокага Духу, вымушаюць іх узброіцца палемічна завостраным кап’ём.

**Запісаў Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ.**

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

беларуса страшней, чым вобраз чумы ў аднайменным рамане А. Камю. "Зона не праз трыццаць кіламетраў, А праз сэрца кожнае прайшла", — кажа К. Камейша ў вершы "У 30-кіламетровай зоне". У людзей парушыўся спрадвечны архетыпны код успрымання рэальнасці, бо ўсё страціла сэнс, усё змяніла сваю сутнасць. "Было поле, а стала зона адчужэння", "Шчабечуць у зоне, але не птушкі, а дазіметры", "Бо звычайная птушка з зоны гэта ўжо рэактар", — горка прамаўляе ў сваёй паэме Я. Сіпакоў.

У беларускай філасофскай канцэпцыі светабудовы прырода арганічна зліта з чалавекам. Лес лічыўся храмам ачышчэння ад грахоў. У лесе забаранялася нават брыдкаслоўе. Вобраз дрэва асацыіраваўся з вечнасцю. Цяпер хворая прырода яшчэ больш адчужае ад сябе чалавека. Гэту трагедыю глыбока спасцігнуў М. Скобла ў вершы "Ахвяра": "...свецяцца як беларускія труны у атручанай, чорнай ды мёртвай зямлі". Сімваламі гэтага адчужэння з'яўляюцца ў літаратуры вобразы атамных здзічэлых сабак і ваўкоў, якія аб'явілі чалавеку вайну: "І кроў чалавека, яго жывое мяса бадзёрылі ваўкоў", — піша ў сваёй аповесці В. Казько. На фоне жахаў асаблівую каштоўнасць для чалавека набываюць вада са студні, трава, дождж, якіх не трэба баяцца.

У духоўным пантэоне беларусаў асаблівае месца займалі птушкі. Бусел лічыўся святой птушкай. Ад буслоў выводзілі свой радавод нашы продкі. Трагедыю гвалту над палескай зямлёй пры бязглуздым асушэнні Палесся ўвасабляў у рамане В. Казько "Неруш" белы бусел. Трагедыю знікнення саміх беларусаў сімвалізуе ў аповесці В. Казько чорны бусел. Кульмінацыяй самавыкрыцця таталітарнай савецкай сістэмы, духоўнай мутацыі наменклатуры з'яўляецца рэальны факт расстрэлу каля паўсотні буслоў савецкім начальствам на Прыпяці дзеля забавы (эсэ В. Казько "Дзікае паляванне каралёў сталіншчыны"). Вясковыя людзі пахавалі птушак у брацкай магіле. Аднак адзін з гэтых людзей, які раней ніколі не хварэў, у той дзень памёр. Пра такія страсці на палескай зямлі не дадумаўся б нават Шэкспір. В. Казько прыводзіць жудасныя факты адстрэлу начальствам апошняга жураўля на Случчыне, іх дзікае паляванне на лебедзяў у Вілейскім раёне.

Забойства чорнага бусла — святой птушкі — у аповесці В. Казько — трагічная метафара страты апошняй надзеі на божае дараванне і выратаванне.

Атамная трагедыя на Беларусі — страшнае папярэджанне свету, да чаго можа прывесці страта нацыянальнай, духоўнай, чалавечай годнасці. Постчарнобыльская трагедыйная літаратура заклікае ўсіх людзей да гуманізму, духоўнасці, а беларусаў — прачнуцца нарэшце, каб стаць нацыяй свабодных людзей і выжыць, самарэалізавацца ў сваёй чалавечай красе.

**Ніна АКСЁНЧЫК, дацэнт**

*г. Мазыр*

---

Па-свойму асэнсоўвае В.Гарановіч і тэму мінулай вайны. Дарэчы, і назва кнігі падказана даўнімі падзеямі. Што гэта так, сведчыць эпіграф да верша "Беразвечча": "Па дарозе на Браслаў ля Глыбокага ёсць брацкая магіла, якая дала апошні прытулак тысячам савецкіх людзей і 1,5 тысячы італьянцаў, якія былі расстраляны фашыстамі ў 1942 годзе".

І, канечне ж, у В. Гарановіча ёсць вершы, у якіх закранаецца яшчэ адна тэма, а, як на сённяшні дзень, дык асабліва важная — тэма беларускасці. Паэт упэўнены: "Ад бяспомных душа абароніць Мову нашу і родкарані, Дзе світае меч гнеўнай Пагоні І Грунвальда славутыя дні".

А тое, што В. Гарановіч-паэт дэкларуе, В. Гарановіч-чалавек праводзіць у жыццё. Віталь Рыгоравіч (пра гэта сведчыць у прадмове "Справа і слова паэта" Уладзімір Савуліч), калі стаў дырэктарам школы ў Глыбокім, хутка пераканаў бацькоў, што іх дзеці павінны вучыцца на беларускай мове. Менавіта пераканаў, а не зрабіў гэта загадам. А вынікі — відочныя: "Сягоння, калі зноў актывізаваліся захады да пераходу на рускую мову навучання, дырэктар Віталь Рыгоравіч Гарановіч звярнуўся да бацькоў: "Напішыце заявы, хто б жадаў, каб вашы дзеці навучаліся не на роднай мове". Напісаў толькі адзін чалавек".

Сапраўды: "першародным быць цяпер няпроста..." Першародным у творчасці, у жыцці. Настаўнік і паэт В. Гарановіч да гэтага імкнецца. І памкненні яго як у жыцці, так і ў творчасці марнымі не застаюцца. Прафесійнае задавальненне Віталь Рыгоравіч атрымлівае ў тым, што яго вучні растуць людзьмі, вартымі свайго настаўніка. А творчыя набыткі яго пасапраўднаму ацэніць чытач, калі пазнаёміцца з кнігай "Беразвечча". Яна заслугоўвае ўважлівага стаўлення да сябе. А асобныя моўныя ўскладнёнасці: "я сын вайны салдата", "купальскія кастры пад рана на Івана", "народзе, прашу: не формай салдата" даруеш аўтару, бо ён — ПАЭТ.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

---

# Дыягназ пастаўлены?

## СПРОБА АНАЛІЗУ ПРАБЛЕМ СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ПРОЗЫ

Горкае прызнанне таго відавочнага факта, што беларуская проза перажывае сёння далёка не лепшыя часы, атрымала "сталую прапіску" на старонках газет і часопісаў. Можна бясконца разважаць аб праявах незайздроснай, блізкай да крызіснай літаратурнай сітуацыі — калі творы губляюць свайго чытача і не знаходзяць выхадаў на міжнародны ўзровень, калі знікаюць лідэры і не ўспыхваюць новыя зоркі, тыражы кніг падаюць і, адпаведна, літаратурны заробак перастае карміць пісьменніка...

Але літаратуразнаўства, якое называе гэтыя праблемы, падобна, прывыкла ісці па шляхах паўтарэння ўжо сказанага папярэднімі пакаленнямі даследчыкаў. Безумоўна, існуе шэраг літаратурных праблем, але хіба без нас ніхто пра іх не ведае? Не першы год многія, у тым ліку і самі пісьменнікі, б'юць у публіцыстычны звон, заклікаючы грамадства не пакідаць па-за ўвагай беды нашай культуры. Цяпер і мы туды ж, не мяняючы танальнасці. Гэта і гэта — негатыўныя фактары, і гэты таксама... Атрымліваецца, паміж публіцыстыкай і літаратуразнаўствам малая розніца? Нешта не надта верыцца. Дыягназ — гэта не проста пералік сімптомаў, а выяўленне глыбіннай прычыны, якая іх выклікае. І яго беларускае літаратуразнаўства пакуль не паставіла. Спрабуючы выправіць сітуацыю без яго пастаноўкі, мы рызыкуем у лепшым выпадку не дасягнуць поспеху. Лячыць, як вядома, пажадана хваробу, а не яе сімптомы.

Перш за ўсё адзначым, што справа не ў традыцыйнай нарматыўнасці. Даўно агучаныя даследчыкамі і ўсвядомленыя пісьменнікамі правілы выбудовы мастацкай панарамы аналізаваць няма сэнсу. Празаікі шчыра занепакоены сітуацыяй, актыўна шукаюць выйсця з крызіснага становішча, і ўжо да чаго-чаго, а да парад класічнага літаратуразнаўства прыслухоўваюцца.

Найбольш верагоднымі выглядаюць наступныя дапушчэнні: крызісны стан сучаснай беларускай прозы абумоўлены а) псіхалагічнымі передумовамі творчага працэсу альбо б) глыбінным прабелам у структуры бачання мастаком свету.

Часткова мае рацыю той, хто сцвярджае, што перад намі вынік разгубленасці літаратараў, якім давялося нечакана і рэзка змяніць сацыяльныя і кар'ерна-творчыя арыенціры. Растлумачым тэрміналогію. З сацыяльным — тут, здаецца, усё зразумела, а вось наконт кар'ерна-творчага патрабуецца ўдакладненне. У нашай выдавецкай сітуацыі ў кагорту вялікіх адносілі таго, хто меў магчымасць часта друкавацца сам і, што не менш важна, спрыяць прыняццю да друку твораў калег. Калі такое права заваёўвалася творчасцю — гэта адно; аднак бывалі ў нас аўтарытэты з нагоды занятай пасады ці сяброўства з кіраўнікамі рэспублікі — а гэта іншае. Акружэнне прызвычайвалася існаваць з дапамогаю лідэра, і калі аўтарытэт быў творчым — за яго спіной сталелі, калі не — прывыкалі да закулісных звяг і падкусвання канкурэнтаў. У выпадках небяспекі для "флагмана" яго "флатылія" часцей за ўсё рассейвалася, прычым многія адразу ж мянялі курс і падладжваліся пад новага лідэра. Кар'ерна-творчая псіхалогія і распад сістэмы, якая яе параджала, гіпатэтычна маглі многіх паставіць перад неабходнасцю самастойна выпрацоўваць творчыя прыярытэты, а гэта зусім не так лёгка. Псіхалагічны зрыў, выкліканы зменай сацыяльных і кар'ерна-творчых арыенціраў, несумненна, меў месца, і лагічным выглядае дапушчэнне, што менавіта гэтым тлумачацца сучасныя праблемы нашай літаратуры. Аднак, відавочна, не ўсе. Па-першае, кар'ерна-творчая пазіцыя характэрна хутчэй для тых, каго неабходна весці, чым для тых, хто хоча ісці сам. Па-другое, хіба сапраўды разбурана ў нас выдавецкая сістэма, якая дыктавала падобны стыль узаемаадносін, ствараючы аўтарытэт па пасадзе, па доступе да выдання? А так існаванне своеасаблівых школ за спінамі прызнаных майстроў — традыцыя для літаратуры зусім не заганная. Іншая справа, што ў нас стала мала творчых лідэраў, а лідэры па пасадах тасуюцца хутка-хутка. У выніку ў пэўных пісьменніцкіх колах сапраўды назіраецца мітуслівая разгубленасць ад частай змены прыярытэтаў.

Псіхалагічны надлом ад змены сацыяльных прыярытэтаў — гэта другі аспект праблемы грамадскіх пераўтварэнняў, куды больш балючы і востры. Уздзеянне гэтага фактару ў надрукаваным мала адчувальнае, але ім найперш лагічна будзе растлумачыць маўчанне некаторых таленавітых, прызнаных майстроў, якія ролю флюгера на сябе не прымяралі ніколі. Аднак сёння яны нічога не друкуюць, таму натуральным выглядае дапушчэнне, што ў беларускай літаратуры развіваецца зараз шырокая плынь неапублікаванага, напісанага, але прыхаванага ў стол. Няхай кожны задумаецца і ўспомніць некалькі прозвішчаў, якія не мільгаюць сёння па старонках друку. Успомніць і пагодзіцца, што ў стол зараз, напэўна, пішуцца вельмі цікавыя творы.

Аднак бачанне кар'ерна-творчай сітуацыі далёка не аднолькавае ў мэтра і падмайстра. А таму псіхалагічныя нюансы, якія адбіваюцца на творчасці маладых альбо афарбоўваюць прозу пісьменнікаў, што прынялі і актыўна прапагандуюць новую ідэалогію, мы маем права не разглядаць у якасці галоўнай прычыны заняпаду агульналітаратурнага. Справа не ў псіхалогіі. Гаварыць трэба пра чыста "тэхнічны" момант, а максімальна шырокі, асноватваральны, такі, які з цяжкасцю абыходзіцца і авалоданне якім даецца няпроста. Рызыкну выказаць наступнае меркаванне: беларуская проза сёння вымушана выкарыстоўвае архаічную структуру бачання мастаком свету, і гэта асабліва кідаецца ў вочы чытачу, які менавіта ў апошні час атрымаў магчымасць супастаўляць творы нашых і лепшых сусветных пісьменнікаў.

Літаратура, спрабуючы атрымаць выяўленчыя магчымасці, недаступныя галоўнаму канкурэнту — кінамастацтву, утварыла трохузроўневую сістэму ўспрымання свету. Факт, пакуль не ацэнены як след сусветным літаратуразнаўствам, але лепшыя майстры слова выдатна адчуваюць, у чым сутнасць справы. З XIX стагоддзя суперажыванне чытачом падзей закладзена ў структуру мастацкага твора як элемент актыўны. Аўтарская пазіцыя мадэлюецца пад усярэдненую, чым дасягаецца "эфект прысутнасці". Беларуская літаратура дадзены прыём асвоіла.

У сучасным шматмерным мастацкім свеце ўсё павінна рухацца, нішто не павінна стаяць на месцы. Пажаданне адносіцца і да ўнутранага стану герояў літаратурнага твора. Аўтар, заняўшы змадэляваную пад сярэднюю пазіцыю, губляе магчымасць "цягнуць" персанажаў па лініі ўнутранага, духоўнага росту. Эстэтыка сацыялістычнага рэалізму бліскуча абышла дылему, уключыўшы ў структуру мастацкага свету вобраз "ідэальнага аўтара" — прадстаўніка светлай будучыні, якой добра вядомы канчатковы вынік усіх сённяшніх сутыкненняў. Нагадаем, як марудна цягнуўся працэс засваення такой мастацкай мадэлі свету: ад наіўнасці сноў Веры Паўлаўны ішлі амаль паўстагоддзя, прыступка за прыступкай, пакуль не дасягнулі нязмушанасці паралеляў у творах Горкага, Гладкова ці М. Астроўскага.

Была перспектыва. І вось цяпер ідэал (падваенне аўтара) давялося прыбраць. І ўсё — героі беларускіх твораў згубілі прастору ўнутранага руху. Мы вымушана адступілі да двухузроўневай сістэмы "адзін аўтар — адзін ракурс бачання матэрыялу". Адпаведна і эстэтыка ў творах засталася толькі адна — эстэтыка рэальнага, побытавага. А гэта вяртанне да паэтыкі натуралістаў XIX стагоддзя, пра што, між іншым, не маўчаць даследчыкі, што выдатна адчуваюць, дарэчы, і лепшыя нашы аўтары, якія спрабуюць выправіць сітуацыю. І звяртаюцца найперш да вопыту сучаснага еўрапейскага рамана. Але пошукі новай эстэтыкі даюцца нялёгка, і не намацаны пакуль нават асноўны прынцып заходняй літаратурнай мадэлі: такая ж, як і ў сацыялістычным рэалізме, падвоенасць аўтарскага вобраза, толькі намнога больш прагматычная. "Асноўны" аўтар адхіляецца там у бок псіхалогіі паранармальнага, нязвыклага, а "дадатковы" застаецца нейтральным, сярэднім. Ідэалам становіцца норма, якая для нас была кропкай адліку. Тым самым забяспечваецца дыяпазон унутраных ваганняў героям (прычым рух магчымы ў двух напрамках: альбо ў норме выяўляюцца глыбіні падсвядомага, альбо ад чорнай прорвы неспазнанага герой пачынае ўзыходжанне... да нормы), а чытача прымушаюць спрачацца не толькі з героямі, з сітуацыяй, але часткова і з аўтарам, у тых момантах, калі адрыў ад нормы "асноўнага" вобраза падкрэсліваецца з пазіцыі дадатковага.

Не ведаючы гэтага "рэцэпту", успрыняўшы чыста знешнія прыкметы сучаснага еўрапейскага рамана, нашы літаратары напачатку не будуць атрымліваць чаканых вынікаў, напрыклад, паход у вобласць псіхаанамальнага з выкарыстаннем звыкла цэльнага "ўсярэдненага" аўтарскага вобраза заканамерна створыць эфект прысутнасці і дасць на выхадзе звычайную, прымітыўную "чарнуху". Між тым як Камю, Кафка, Сартр заўсёды падкрэсліваюць дыстанцыю адчужанасці, і іх пранікненне застаецца мастацтвам. Альбо мы ўбачым спробу падцягвання да ідэалу героя, для якога і норма — недасягальны ідэал.

Вось такі дыягназ. З заўвагаю, што беларускай літаратуры, магчыма, ёсць сэнс задумацца пра пабудову сваёй, адметнай структуры мастацкага бачання свету, бо наш чытач яшчэ доўга эмацыянальна не зможа прыняць мастацкія эксперыменты на "заходні манер". Калі ідэалам абвясціць тое, што для нас доўгі час было нормай...

І яшчэ — многае ў працэсе асваення новага будзе і надалей ускладняцца на Беларусі штучнасцю нашай выдавецкай сітуацыі. Але гэта асобная размова.

**Аляксандр ЛАПАТА-ЗАГОРСКІ**

**Ад рэдакцыі**

Спрадвечная мара літаратурнай крытыкі — паставіць беспамылковы дыягназ сучаснай ёй літаратуры і вызначыць адпаведныя працэдуры для вылячэння ейных хваробаў. Роля крытыка ў ідэале — быць суддзёй і пракрокам... Нездарма ў старажытным Рыме сярод усіх літаратурных прафесій найбольш цаніўся крытык — той, хто каментаваў Гамера ці Герадота.

Маладога аўтара артыкула, які прапануецца ўвазе чытачоў "ЛіМа", пракрокам, зразумела, не назавеш. І на ролю суддзі прэтэндаваць яму, бадай, зарана. Але сама спроба "вынесці прысуд", разабрацца ў найвастрэйшых праблемах сучаснага літаратурнага працэсу, прычым не са "свае званіцы" — а ў кантэксце сусветнай культуры — заслугоўвае і павагі, і ўвагі. Дзёрзкасць — неадымная частка і навукі, і творчасці. Хаця ў артыкуле А. Лапаты-Загорскага шмат момантаў спрэчных, нядоказных. З нечым чытач пагодзіцца, з нечым — не, можа, нават абурыцца. Малады навуковец, напрыклад, спрабуе даць схему адносін унутры "пісьменніцкага цэха", але зрабіць гэта, гледзячы збоку, можна толькі павярхоўна і прадузята. Не зусім правільнае ўяўленне ў аўтара пра выдавецкую прастору ў краіне. Не зусім этычна зводзіць праблему выдання кніг да волевыяўлення пэўных асоб з пісьменнікаў. Нам падаецца, што ўсё, сапраўды вартае выдання, — вартае не на думку самога аўтара, а аб'ектыўна — выдавалася і будзе выдавацца; і не толькі ў "Мастацкай літаратуры". Існуе дастаткова шырокае кола недзяржаўных выдавецтваў, урэшце, не перастаў яшчэ друкаваць мастацкія творы беларускі перыядычны друк. Ну а міф пра "шэдэўры ў шуфлядзе" — напэўна, усяго толькі міф, які часам з натуральнага какецтва падтрымліваюць самі творцы.

Не варта рабіць трагедыі, мусіць, і з вузкага кола чытачоў беларускай кніжкі. Ва ўсіх краінах прыхільнікаў сур'ёзнай літаратуры прыкладна столькі ж, колькі аматараў сімфанічнай музыкі. Але нідзе з гэтага не робяць высновы, што трэба пераключацца адно на бульваршчыну ды эстрадныя песенькі — гэта ж "народ" любіць! Пра дзяржаўную падтрымку творцаў "сур'ёзнага" мастацтва размова асобная. Зноў жа, калі разглядаць літаратурны працэс у адрыве ад сацыяльных і палітычных аспектаў, глабальнай панарамы, на якую прэтэндуе аўтар артыкула, не атрымаецца.

Але чытач сам знойдзе свае "за" і "супраць" думкам, выказаным у артыкуле. Галоўнае — ёсць думкі, якія могуць і павінны выклікаць рэзананс.

ПРОЗА

# ДЗВЕ НАВЕЛЫ

Ніна РЫБІК



## ВЯРТАННЕ

Дзверы ў прыёмную старшыні калгаса прыадчыніліся, і жаночы голас ад парога нясмела спытаў:

— Можна?

Светачка, сакратарка, заканчвала наводзіць традыцыйны ранішні "марафет". Па тоне наведвальніцы яна беспамылкова вызначыла, што тая персона не асабліва важная, а таму старанна пафарбавала губы, палюбавалася на сябе ў люстэрка, схавала яго ў верхнюю шуфлядку стала і толькі тады ўзняла вочы:

— Калі ласка, праходзьце. Вам што?

— Я са старшынёй хацела пагаварыць...

Вопытнае вока сакратаркі адразу згледзела і абтрапаныя абшлагі старэнькага палітончыка, і лёгкія, не па сезоне туфлі са стаптанымі абцасамі — позірк міжволі радасна слізгануў уніз, на свае такія зграбныя і ўтульныя боцікі, выпадкова ўчора прыдбаныя, — і палінялыя нейкія вочы на яшчэ не старым, не страціўшым прывабнасці твары. Губы яе грэбліва падціснуліся: "І гэтая нечага прасіць прыйшла". Але прафесійная вывучка прымусіла адказаць ветліва:

— Сяргей Аляксандравіч зараз у дыспетчарскай, праводзіць нарад.

— Але ён з'явіцца тут?

— Напэўна, калі нікуды не паедзе.

— То я пачакаю, з вашага дазволу.

— Калі ласка.

Сакратарка на нейкі час згубіла ўсякую цікавасць да наведвальніцы — перакладвала нешта на стале, корпалася ў шуфлядах, складвала газеты. Але ўрэшце жаночая цікаўнасць узяла верх і яна запыталася?

— А вы з якой справай да Сяргея Аляксандравіча?

Жанчына, што прымасцілася на крайнім крэсле, уздрыгнула ад нечаканасці, і позірк яе, які да гэтага бязмэтна вывучаў малюнак на шпалерах, стаў набываць асэнсаванасць:

— Прабачце, што?

— Я пытаю, што за справа ў вас да старшыні?

— Асабістая справа, — не змагла стрымаць цяжкі ўздых наведвальніца.

Агеньчык цікаўнасці разгарэўся ў вачах Светачкі ў сапраўднае полымя. Асабістая справа — гэта заўсёды цікава, нават калі гэта справа такой замухрышкі. Хто ведае, можа, яна першая даведаецца і затым раскажа ўсім нешта такое, пра што будзе гаварыць уся вёска?

— І што ж за асабістая справа? — працягвала яна настойліва дапытвацца.

— На работу хачу прасіцца, — пасля паўзы нехаця адказала жанчына.

— На работу — гэта добра, — здаецца, узрадавалася сакратарка. — У нас пасля Чарнобыля, ведаеце, столькі людзей паехала, спецыялістаў, што проста няма каму працаваць.

— Ведаю, — горка ўсміхнулася жанчына. — Сама такая.

— А, дык вы, пэўна, Таццяна, дачка нябожчыка дзядзькі Кузьмы, што пераехала днямі ў яго хату? — узрадавалася сваёй здагадцы сакратарка.

— Так, гэта я, — яшчэ раз уздыхнула наведвальніца.

— І што ж, не прыжыліся ў чыстых мясцінах? — у пытанні выразна прагучала з'едлівасць.

— Не прыжыліся, — жанчына, здаецца, не заўважыла гэтай з'едлівасці і пачала гаварыць ціхім, бясколерным голасам — нібы не цікаўнай сакратарцы, а самой сабе расказвала:

— Спачатку-то ўсё добра было. На работу ўладкаваліся і я, і муж. Сын у школу пайшоў. Маласямейку нам далі, у хуткім часе абяцалі кватэру. А потым... Муж захварэў. Урачы спярша казалі — язва. А потым выявілася, што рак. Дзе якія грошы былі, каштоўнасці — усё пайшло на яго лячэнне. І нічога не дапамагло... Памёр...

Здаецца, жанчына не заўважала слёз, што міжволі каціліся з вачэй, мімаходзь сцірала іх худзенькай, працятай сеткаю сініх жылак рукой і распавядала далей:

— А месяцы за два да гэтага ўсіх, бухгалтараў, выклікаў да сябе дырэктар і сказаў, што нас занадта многа і трэба скараціць аднаго чалавека. А сам на мяне глядзіць... Ну, вядома ж, каго ён яшчэ скароціць? Не галоўнага ж бухгалтара, не сваю палюбоўніцу, не жонку старшыні райвыканкама... Толькі мяне. А што ў мяне муж памірае — дык каму сёння чужое гора баліць...

Светачка дастала з сумачкі карункавую насовачку, акуратна, каб не размазаць старанна намаляваныя вочкі, змахнула ёю неіснуючую слязінку. Але наведвальніца, здаецца, не заўважыла гэты красамоўны жэст спагады, і Светачка незадаволена схавала хусцінку.

— Так і засталіся мы з сынам удвух жыць на яго пенсію ды маю дапамогу па беспрацоўю. Але дапамога хутка скончылася. А пенсіі хапала толькі на тое, каб заплаціць за кватэру ды электрычнасць. Спрабавала заняцца камерцыяй, ды не ўмею я гэтага. Ледзь сваё вярнула. Ды і не маю здароўя цягаць на базар гэтыя вялізныя сумкі. Стала падумваць, каб вярнуцца дамоў, у бацькаву хату. А калі даведалася, што сыну ў школе мянушку далі — вожык чарнобыльскі, то гэта стала апошняй кропляй. Ды і не было ў нас іншага выйсця...

— Ах, якія жорсткія людзі! — гучна ўсхліпнула Светачка.

— Жорсткія? — здаецца, толькі цяпер жанчына заўважыла, што ўвесь гэты час яе нехта слухаў, і паморшчылася — пашкадавала, што так раскрылася перад гэтай, па ўсім відаць, балбатлівай сакраткай. — Ды не, нармальныя там людзі. Як і ўсюды. Ёсць жорсткія, злыя. А ёсць і добрыя, таварыскія. Нам шмат дапамагалі. І ніхто ж не вінаваты, што на нас столькі гора разам звалілася...

Светачка толькі сабралася выпусціць у наведвальніцу новую абойму пытанняў, каб выведаць усе падрабязнасці, але не паспела — у прыёмную ўвайшоў старшыня. І яна адразу перамянілася:

— Добрай раніцы, Сяргей Аляксандравіч, — зашчабятала, завілася вакол гаспадара ластаўкай. — Як здароўе? Як справы? Якія планы на сёння? — І не чакаючы адказу на гэтыя дзяжурныя пытанні, паведаміла: — Вас тут наведвальніца чакае.

Старшыня акінуў позіркам узняўшуюся з крэсла жанчыну, гэтак жа, як і паўгадзіны назад сакратарка, беспамылкова вызначыў яе сацыяльны статус, кінуў цераз плячо, адчыняючы кабінет:

— Я вас паклічу. Пачакайце.

Сакратарка з папкай у руках праслізнула следам.

Жанчына зноў апусцілася на крэсла і ўсміхнулася. У гэтым распаўнелым, бы кормны парсючок, важным старшыні калгаса пазнала яна смаркатага Алесевага Сержука, які жыў на суседняй вуліцы і часта лазіў да іх у сад па яблыкі. "Ён жа зусім малады — за мяне, здаецца, гадоў на пяць ці шэсць маладзейшы. Пэўна ж, і трыццаці яшчэ не мае. І да вучобы, помніцца, не надта ахвочы быў — дзядзька Алесь усё цягаў торбы ў сельгастэхнікум, куды ўладкаваў Сержука, каб хоць не выгналі, каб давучыўся. А цяпер глядзі ж ты — старшыня калгаса. Ды які важны стаў!".

Хвілін праз сорак паружавелая сакратарка выскачыла з кабінета, на хаду папраўляючы прычоску, і забыўшыся сцерці з твару замілавана-салодкую ўсмешку, праспявала:

— Заходзьце, калі ласка.

"Як можа мяняцца чалавек — за імгненне ператварыцца з лісіцы ў кошку", — падзівілася Таццяна, пераступаючы парог старшынёўскага кабінета.

— Ну, што ў вас за клопат? — вальяжна разваліўшыся ў крэсле, ляніва, бы наперад ведаў, што яна скажа, спытаў старшыня.

Яна сумелася — ад гэтага тону, ад таго, што ёй не прапанавалі сесці, зрэшты, што сусед-Сяржук не пазнаў яе ці зрабіў выгляд, што не пазнаў. Але пастаралася ўзяць сябе ў рукі.

— Сяргей Аляксандравіч, вы павінны мяне памятаць... Я Таццяна, малодшая дачка Кузьмы Піліпчыка... Бацька памёр паўгода назад... — пачала яна, блытаючыся ў думках і словах. І ўрэшце не вытрымала:

— Дазвольце, я сяду?

— Сядайце, хто вам забараняе, — паціснуў старшыня плячыма. І ад такога запрашэння яна зніякавела яшчэ больш.

— Разумееце, у нас так склалася — адна бяда за другой. Мне аперацыю зрабілі. Затым вось бацька памёр. Праз месяц — мой муж. А да гэтага ён доўга хварэў. Мяне з работы скарацілі... Жыць стала немагчыма. І я вырашыла вярнуцца з сынам дамоў, у бацькаву хату. Вас я прашу: дапамажыце з работай...

— З работай, кажаце... — задуменна круціў ручку старшыня. — А якая ў вас спецыяльнасць?

У душы Таццяна горка ўсміхнулася — Сяржук выдатна ведаў, што яна бухгалтар з вышэйшай адукацыяй, да гэтай бяды, да чарнобыльскай пошасці, працавала галоўным бухгалтарам у суседнім калгасе, куды пайшла замуж. Ён яшчэ практыку ў іх праходзіў. Аднак Сяргей Аляксандравіч упарта не хацеў прызнаваць у ёй знаёмую. Але адказала спакойна:

— Бухгалтар я. Маю вышэйшую адукацыю і вопыт работы.

— А там, у чыстай зоне, — ён прамовіў гэтыя словы — " у чыстай зоне" — з непрыхаваным сарказмам, — кім працавалі?

Таццяна зрабіла выгляд, што не заўважыла сарказму:

— Таксама бухгалтарам. На фабрыцы.

— І кватэру там мелі?

— Маласямейку.

— А тут якую пакінулі, як выязджалі?

— Чатырохпакаёвую. Асабняк.

— І ўсё ж не прыжыліся ў чыстай зоне, - злаcліва, як да гэтага Светачка, усміхнуўся старшыня. — А як жа рваліся туды, як ляцелі! Хоць к чорту на рогі — абы падалей ад Чарнобыля. Думалі, вас там чакаюць... Усё кідалі — работу, бацькоў, хаты. Скуры свае ратавалі...

— Не свае — дзяцей, — нясмела запярэчыла Таццяна.

— Дзяцей? А ў тых, што тут засталіся, — не дзеці? У іх што — парасяты?

У вачах яго ў гэты момант паўстала свая дачушка, у якой штораніцы цякла носам кроў, і ніводзін урач не мог сказаць — чаму. І змучаная трывогай за дзіця і ўласнымі хваробамі жонка, якая ўсё прасіла яго пераехаць куды-небудзь у чыстае месца. Але ён разумеў, што нідзе больш старшынёй яго не прызначаць, а быць якім-небудзь другім аграномам ці нават брыгадзірам пасля таго, як вось ужо два гады ён адчувае сябе наймагутнейшым чалавекам, амаль богам на падуладнай тэрыторыі, ён ужо не мог. А тут гэтая задрыпаная бухгалтарка, якая ўсё пнецца напомніць пра іх дзіцячае знаёмства, развярэдзіла ў душы тое пачуццё віны перад сям'ёй, якое і так штовечар не дае заснуць. І ён крычаў, пырскаючы слінай, імкнучыся апраўдацца перш за ўсё ў сваіх уласных вачах:

— І ў нас дзеці. І яны жыць хочуць! Але мы не паехалі. Мы замянілі вас на вашых месцах і працуем. Ды вы — дэзерціры, вы пакінулі даверaныя вам пасты ў самы складаны час! Такіх, як вы, у вайну расстрэльвалі! А ў вас хапае нахабства цяпер, калі вас прыціснула, зноў сюды прыбегчы? Дапамажыце, дайце работу... І радыяцыі ўжо не баіцеся, і за дзяцей не страшна, так?

— Страшна, — ледзь чутна, пасінелымі губамі прамовіла Таццяна. — Але выйсця няма...

— Дык ты да мяне прыйшла, каб я даў табе гэтае выйсце? Пасаду бухгалтара з добрым акладам? А дзе ты была, як тут зарплату людзям не было каму налічваць? Грыбы-ягады ў чыстых лясах збірала ды па траўцы басанож бегала? — крычаў старшыня, бы прыгавор зачытваў.

— Але ж я не прашу пасаду бухгалтара, мне хоць бы якую — касіра, учотчыка. Каб хоць жыць было за што...

— Ёсць у мяне і касір, і ўчотчык, — крыху астыў і зноў з'едліва заўсміхаўся старшыня. — Вось даярак не хапае. Так што, калі ёсць такое жаданне — калі ласка.

— Але я не магу даяркай. У мяне хворае сэрца. Мне ўрачы забаранілі цяжка працаваць, — яшчэ ніжэй апусціла галаву Таццяна, ледзь стрымліваючы слёзы.

— Ну, даражэнькая, — развёў рукамі гаспадар, — то трэба было сядзець у сваёй чыстай зоне і лячыць сваё хворае сэрца. А ў нас тут, сама ведаеш, ніякіх умоў. Радыяцыя. І праца цяжкая. А здымаць некага з работы з-за твайго хворага сэрца я не збіраюся.

— Але ж у вас ёсць у бухгалтэрыі свободнае месца, мне казалі...

— А вось гэта ўжо не твая справа, — зноў узлаваўся старшыня. — Я табе сказаў: хочаш — ідзі на ферму. Не хочаш — як хочаш.

Таццяна заплакала:

— Сяргей Аляксандравіч, я вас прашу, дапамажыце. Мы ж з вамі з аднаго сяла, можна сказаць, суседзі. Ну што за злачынства я зрабіла, калі паехала? Ці ж я адна такая? Ці я чыё месца заняла? Я ж толькі хацела ўратаваць ад радыяцыі сваё дзіця. Не атрымалася. Жыццё загнала ў тупік... Дапамажыце — на вас адна надзея.

Тыя словы і слёзы далі магчымасць старшыні ў каторы раз адчуць сябе крышачку Богам — пачуццё, якое ён найбольш любіў. І ён змякчыўся, літасціва паляпаў па плячы сплаканую жанчыну:

— Ну ладна, супакойся. Зайдзі дні праз тры. Можа, і знойдзем што-небудзь для твайго хворага сэрца. Абяцаць нічога не магу, але пастараюся.

— Дзякуй вам! — акрыленая надзеяй, замітусілася Таццяна. — Вы не думайце, я ў даўгу не застануся, я аддзячу, — прамовіла, саромеючыся, ад дзвярэй.

— Ну вядома ж, аддзячыш, куды дзенешся, — вусны старшыні расцягнуліся ў сальнай усмешцы, а вочы заблішчэлі. "А яна нічога сабе, — глянуў ён ацэньваючы. — Фігурка.. І тварык... Калі яе адагрэць ды прыадзець крыху, то, бадай, і Светачка не дакажа. Да таго ж мужа няма, менш праблем. Так што аддзячыш ты мяне, даражэнькая, ах, ах, як аддзячыш. Ну, у бухгалтэрыю я яе, вядома, адразу не пасаджу. Хай ідзе на вагавую. А то Людка, кажуць, зусім скурвілася, цягаецца з кім папала, а потым яшчэ і рэйсы ім за гэта прыпісвае. Так што накірую яе пакуль туды. А як намерзнецца на ветры, ды ў цёплы кабінет захоча, то аддзячыш як след. Тады і пра бухгалтэрыю можна падумаць".

•

...Ні аддзячыць старшыню, ні трапіць у бухгалтэрыю Таццяна так і не паспела: двух тыдняў працы на вагавой пад пранізлівым восеньскім ветрам і дажджом у лёгенькім палітончыку і дзіравых туфліках ёй хапіла, каб трапіць у бальніцу з двухбаковым запаленнем лёгкіх. Адтуль яна ўжо не вярнулася...

На пахаванне старшыня выдзеліў труну і машыну, але сам не прыйшоў — палічыў, што будзе зашмат гонару. Пахавалі Таццяну побач з бацькамі. Яе адзінага сына забрала да сябе ў горад сястра. А вокны дыхтоўнай Кузьмовай хаты зноў забілі дошкамі.

## РАЗВІТАННЕ

Усё жыццё Ганна прасіла ў Бога лёгкай смерці. Каб заснуць — і не прачнуцца. Ну, у крайнім выпадку, паляжаць дні тры — каб дзеці паспелі з'ехацца, каб развітацца са ўсімі. Доўгай хваробы баялася. Баялася надакучыць дзецям, нарабіць ім лішніх клопатаў. Ды і то падумаць — з яе трох сыноў і дзвюх дачок у роднай вёсцы не засталося нікога. Усе раз'ехаліся пасля Чарнобыля. Хто куды — Надзя на Гродзеншчыну, Міша ў Брэст, Мікола ў Слуцку прытуліўся да жончынай радні, а Валька, тая ажно ў Расію дапяла. Толькі малодшы, смятаннічак Толік, застаўся ў сваім раёне. Яна і яго гнала: едзь куды-небудзь, у цябе ж дзеці. Але ён толькі адмахваўся ад яе:

— Адчапіся. Куды ехаць? Усюды цяпер аднолькава. Не радыяцыя, дык нітраты ці яшчэ якая трасца. Толку з таго, што Надзька з Мішкам з'ехалі? Сядзяць цяпер у сваіх шпакоўнях, чакаюць, каб хто кавалак сала даў, хоць бы і з радыяцыяй. А я хоць з цэзіем, хоць са стронцыем, але ўсмак свежаніны пад'ем. А там — што Бог дасць.

Але Толік жыў у суседнім сяле і да маці таксама наязджаў нячаста. Ганна яго не судзіла і суседкам не давала, заўсёды абараняла:

— Калі яму? Дзень на рабоце, вечарам сваю гаспадарку дагледзець трэба, ды і сям'я. А мне што? Мне яго помач не трэба. Ды і што памагаць? У лаўку схадзіць, курам сыпануць, грубку выпаліць — гэта я і сама пакуль, дзякуй Богу, зрабіць магу.

Час ад часу прыязджалі большыя дзеці і то Валька, то Міша, а настойлівей за ўсіх Надзя клікалі маці жыць да сябе. Але яна і слухаць не хацела:

— Вы што, хочаце, каб я да часу памерла? Што ж я там рабіць буду, на вашых паверхах? Я ж з нуды сканаю. Не, пакуль яшчэ тупаю, то нікуды не паеду. А як аблягу, крый Божа, то тады ўжо забірайце, калі хто захоча.

(Працяг на стар. 12)

ЛіМ ЧАСАПІС

## У ансамблі з майстрамі

**Ці ведаеце вы, чым адрозніваецца кафедра канцэртмайстарскага майстэрства ад іншых? Тым, што яна аб'ядноўвае ў сабе амаль усе музычныя спецыяльнасці, бо фартэпіяна можа акампанаваць кожнаму музычнаму інструменту, а таксама і чалавечаму голасу. У ансамблях піяніст выяўляе сябе па-рознаму: або ён толькі акампануе, застаючыся другарадным удзельнікам, або — наадварот, сам засланяе другога выканаўцу. Падчас такое "размеркаванне роляў" задумвае кампазітар. Але часцей за ўсё кампазітары пішуць музыку для раўнапраўных удзельнікаў ансамбля. Вось такое ўзорнае выкананне і ўразіла слухачоў канцэрта, які адбыўся днямі ў Беларускай акадэміі музыкі.**

**Гэта быў канцэрт студэнтаў кафедры канцэртмайстарскага майстэрства класа заслужанай артысткі Беларусі дацэнта Ларысы Талкачовай. Прагучалі творы кампазітараў розных стыляў і жанраў ("Песні вандроўнага падмайстра" Г. Малера, Канцэрты для кларнета з аркестрам Б. Чайкоўскага і К. М. Вебера, "Іспанскія песні" Д. Шастаковіча і "Пяць японскіх вершаў" Д. Іпалітава-Іванава), але ў кожным нумары праграмы адчувалася адзінства выканаўцаў. Партыю фартэпіяна выконвалі студэнты, якія акампанавалі салістам Беларускай оперы Івану Ланюку і Таццяне Варапай, сталым музыкантам Пятру Навуменку і народнай артыстцы рэспублікі Беларусь Людміле Златавай. Студэнты акадэміі Юлія Шчарбакова і Таццяна Гаўрылава з першага, Анастасія Белан з трэцяга і Іна Шчурэвіч з пятага курса справіліся са сваёй задачай выдатна.**

**Л. ЦВЯЦІНСКАЯ,**
**студэнтка Акадэміі музыкі**

## Два Кашкурэвічы ... і Фаўст

**"Фаўст Арлена" — так называецца дакументальны фільм, прэм'ера якога адбылася ў Рэспубліканскім Палацы культуры ветэранаў. Сцэнарыст і рэжысёр стужкі — Галіна Адамовіч, а расказваецца ў ёй пра народнага мастака Беларусі Арлена Кашкурэвіча і яго сына Ігара. Галоўная тэма — разважанні бацькі і сына аб мастацтве, мастаку і народзе, Фаўсце і Мефістофелі.**

**Як вядома, А. Кашкурэвіч займаецца ілюстраваннем кніг і станковай графікай. Ён ілюстраваў творы В. Быкава, А. Адамовіча, іншых пісьменнікаў, але асноўнай для яго, самай любімай стала праца над "Фаўстам". Наогул жа многія работы А. Кашкурэвіча адзначаны прэміямі і ганаровымі дыпломамі, ён лаўрэат Дзяржаўнай прэміі.**

**Ігар Кашкурэвіч — малады мастак, працуе ў галіне станковай графікі, жывапісу, інсталяцыі, скульптуры. І, нягледзячы на ўзрост, заваяваў прызнанне — яго творы ёсць у фондах Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, у Полацкай карціннай галерэі, у прыватных калекцыях Мінска, Вільні, Стакгольма, Берліна.**

**На праглядзе былі паказаны і папярэднія работы Г. Адамовіч. Сярод іх — "Жаночае пытанне", адзначаная спецыяльным прызам МКФ "Залаты Віцязь".**

**А пасля адбылося абмеркаванне фільмаў. Сваю вучаніцу падтрымаў кіраўнік майстэрні дакументальнага кіно Беларускай Акадэміі мастацтваў Віктар Дашук.**

**Д. КАСТЭНКА**

## Свет польскага кіно

**Стужкай "Маёр Губаль", аўтарам сцэнарыя якой і рэжысёрам з'яўляецца Б. Парэмба, завяршыўся у сталічным кінатэатры "Перамога" тэматычны паказ польскіх мастацкіх фільмаў, арганізаваны Пасольствам Рэспублікі Польшча. Першая сустрэча ў яго рамках адбылася ў мінулы панядзелак, калі дэманстравалася адна з работ рэжысёра Г. Бельскага "Гераічная пастараль", якая ўзнаўляе падзеі, што адбываліся вясной 1945 года, калі ротны цырульнік выратаваў жыццё генералу і за гэта быў адпушчаны на некалькі дзён дахаты... У праграме паказу былі таксама фільмы "Мая вайна — мая любоў", "Алімпіяда-40", "Гэтай вясной не было сонца..." Усе гэтыя стужкі аб'ядноўвае тое, што яны ў розных аспектах закранаюць тэму другой сусветнай вайны, паказваюць, як чалавек праціўіцца насіллю, як прагне ён кахання.**

МУЗЫКА

# Ад першых выпускаў...

## ГОМЕЛЬСКАМУ КАЛЕДЖУ МАСТАЦТВАЎ ІМЯ Н. Ф. САКАЛОЎСКАГА — 75

***Сярод яго выпускнікоў — дзесяткі бліскучых талентаў, добра вядомых на Беларусі і за яе межамі. Вялікая яго роля ў выхаванні музыкантаў-прафесіяналаў, якія сумленна і самаахвярна працуюць на ніве музычнай культуры.***

Гісторыя каледжа неаддзельная ад гісторыі ўсёй музычнай культуры Беларусі.

Ужо ў першыя гады Савецкай улады ў Гомельскай губерні адкрываюцца агульнадаступныя навучальныя музычныя ўстановы, падбіраюцца кадры выкладчыкаў-музыкантаў, фармуюцца творчыя калектывы. Яркі след у гісторыі развіцця музычнай адукацыі ў Гомелі пакінуў А. Туранкоў, загадчык музычнай секцыі гарадскога аддзела народнай адукацыі, пазней выкладчык Гомельскага музычнага тэхнікума, вядомы беларускі кампазітар.

У 1919 г. у Гомелі была адкрыта Народная кансерваторыя (з дзвюма студыямі ў рабочых раёнах). Навучальныя ўстановы новага тыпу ўзначалілі музыканты — грамадскія работнікі А. Ягораў і М. Назараў, пазней прафесары Ленінградскай і Маскоўскай кансерваторый. Апроч іх, выкладчыкамі сталі вядомыя ў горадзе музыканты А. Брук, А. Туранкоў, С. Васільева, Т. Янько-Балеро, С. Захарын, Р. Пінус, Я. Зазуля, Б. Розенблюм, А. Брук, Д. Віхман, В. Казс, І. Пеўзнер, Ю. Шульгін, Н. Эрлік. Сярод першых выпускнікоў кансерваторыі — сын гомельскага чыгуначніка Р. Пукст, у будучым вядомы беларускі кампазітар, выкладчык Гомельскага музычнага тэхнікума (з 1932 па 1941 г.).

Народная кансерваторыя была рэарганізавана ў Дзяржаўную музычную школу 1-й і 2-й ступені (1920 г.). Ды не змянілася сутнасць навучальнай установы, яе выкладчыцкі склад. Лепшыя навучэнцы накіроўваліся для прадаўжэння вучобы ў Маскоўскую ды Петраградскую кансерваторыі. Навучэнцы і педагогі часта выступалі з канцэртамі ў Гомелі. Сімфанічны аркестр навучэнцаў (кіраўнік С. Захарын) і хор (кіраўнік А. Туранкоў) былі папулярныя ў горадзе. З утварэннем прафесійнага сімфанічнага аркестра, які быў адным з першых аркестраў у Савецкай Беларусі, адкрылася новая старонка ў музычнай біяграфіі Гомеля.

Яшчэ праз год на базе школы ствараецца Дзяржаўны музычны тэхнікум, які робіцца цэнтрам культурнага жыцця вобласці. У першы год у тэхнікуме на двух аддзяленнях, выканальніцкім і інструктарска-педагагічным, займалася 240 навучэнцаў, было 10 выкладчыкаў, 6 з іх — з вышэйшай адукацыяй. Першым дырэктарам стаў М. Назараў, яго намеснікам па вучэбнай частцы Б. Розенблюм.

Захавалася праграма паказальнага канцэрта за 4 сакавіка 1925 года з імёнамі тых, хто тады працаваў у музычным тэхнікуме. Гэта піяністы С. Шабалдаева, В. Маянц, Я. Фастоўскі, Е. Раскава, Б. Розенблюм, скрыпачы С. Бугачэўскі, С. Захарын, В. Казс, віяланчэлісты І. Пеўзнер, В. Дзюба, духавік М. Назараў, вакаліст Б. Вепрынскі, тэарэтык А. Туранкоў... Хор пад кіраўніцтвам А. Туранкова ўдзельнічаў у двух аддзяленнях і апроч музыкі А. Нікольскага, П. Часнакова, В. Каліннікава, К. Сен-Санса, выконваў тры творы свайго кіраўніка: "Песня кузні", "Цягнік", "Сальфеджыо".

Дарэчы, і А. Туранкоў, і Р. Пукст у 30-ыя гады былі вядомы гамяльчанам як кампазітары, аўтары музыкі да спектакляў ТРАМа і як першыя фалькларысты Палесся. Пад іх кіраўніцтвам навучэнцы дырыжорска-харавога і інструктарскага аддзяленняў збіралі, вывучалі народныя песні і стваралі іх апрацоўкі для хору ды аркестра.

На той час актыўна працавалі творчыя калектывы тэхнікума. Сярод іх змяшаны хор (кіраўнік Р. Пукст), струнны аркестр (кіраўнік І. Пеўзнер), сімфанічны аркестр (кіраўнік М. Шэндараў), аркестр народных інструментаў (кіраўнік С. Зорын). Канцэрты аркестравых калектываў у Летнім тэатры ўспрымаліся як падзея культурнага жыцця Гомеля і хутка зрабіліся традыцыйнымі.

Педагогі тэхнікума дапамагалі станаўленню мастацкай самадзейнасці ў раённых дамах народнай творчасці, рабочых клубах горада. Так, А. Туранкоў кіраваў хорам завода "Везувій", К. Карнілаў — аркестрам народных інструментаў пры ДК чыгуначнікаў.

Наогул, выкладалі ў тэхнікуме выдатныя педагогі і музыканты: піяністы Б. Розенблюм, Р. Саламянік, В. Маянц, Л. Шэндарава, вакалісты В. Васнецкая, В. Зайцава, духавікі Б. Фрыдман, І. Бамштэйн, С. Шапіра, В. Рабухін, віяланчэліст І. Пеўзнер, скрыпачы М. Шэндараў, Я. Кузнец, кампазітар Р. Пукст, тэарэтык С. Захарын, народнікі К. Карнілаў і І. Сцепанцоў. Сярод навучэнцаў вылучаліся вакалісты Д. Лукас, Р. Млодак, Я. Пазняк, В. Шаціхін, М. Гарбачэўская, балалаечнікі Г. Жыхараў, М. Фалейчык, тэарэтык Г. Фрыдкін, А. Галкін, віяланчэлісты А. Буданіцкі, В. Марозаў, А. Ратнер, піяністы Н. Рыхтэрман, Б. Бодніч. Многія з іх пазней сталі вядомымі ў рэспубліцы кампазітарамі, спевакамі, салістамі аркестраў, дырыжорамі, аўтарамі вучэбных дапаможнікаў па сальфеджыо, педагогамі.

●

Гады Вялікай Айчыннай вайны паказалі, што тут не толькі вучылі музыцы, а і выхоўвалі патрыётаў Айчыны. Танкавы экіпаж братоў Крычаўцовых, вучняў па класе кантрабаса, баяна і харавым, адважна змагаўся на фронце і загінуў, выконваючы баявое заданне. Выпускнік 1939 г. М. Фалейчык ваяваў на І Украінскім фронце, узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, ордэнам Айчыннай вайны, медалямі; Р. Пукст у першыя месяцы вайны працаваў у канцэртнай франтавой брыгадзе, стварыў некалькі патрыятычных песень. Сам тэхнікум (музычнае вучылішча) эвакуіравалі ў г. Уфу; былі вывезены інструменты, ноты.

26 лістапада 1943 г. Гомель быў вызвалены ад фашысцкіх захопнікаў. У разбураны будынак па вул. Волатаўскай, 17, вярнулася музычнае вучылішча. З 1944 па 1967 год дырэктарам вучылішча быў К. Кавалёнак, удзельнік вайны, выкладчык па класе скрыпкі. Яго намеснікам па навучальнай рабоце — Л. Шэндарава (клас фартэпіяна).



*Нараду ў каледжы мастацтваў праводзіць дырэктар Э. Кірыленка.*




*Народны цымбальны аркестр пад кіраўніцтвам У. Іванова.*

Яны кіравалі аднačасова будаўнічымі работамі і вучэбнымі заняткамі, якія аднавіліся з 1 кастрычніка 1944 г. У раскладзе ўлічваліся аднаўленчыя работы, вучэбныя гадзіны, канцэртныя выступленні выкладчыкаў і вучняў, якіх у аўдыторыі вярнулася 30 чалавек.

Аднак яшчэ ішла вайна, не было поўнага выкладчыцкага складу, асновай якога сталі старэйшыя педагогі вучылішча: Р. Саламянік, В. Маянц, В. Васільева, М. Шэндараў, Н. Пірагова. Не хапала паліва, і каб забяспечыць цяпло ў класах, педагогі разам з вучнямі разгружалі баржы ў рач-

## І з беларускай — таксама

**Славацкі паэт Юрай Андрычык добра вядомы і як перакладчык, прытым пераўвасабляе па-славацку творы з розных моў — рускай, украінскай, польскай, чэшскай. Не чужая яму і беларуская мова. У перакладзе Ю. Андрычыка на славацкай мове пабачылі свет кнігі М. Танка "Глыток вады", П. Макаля "Так лёгка крочыць", "Лонва" І. Пташнікава і іншыя. Асобныя творы Я. Купалы, Я. Коласа, А. Куляшова, П. Броўкі, А. Пысіна, П. Панчанкі, Г. Бураўкіна, Н. Гілевіча, У. Паўлава і іншых беларускіх паэтаў, пераўвасобленыя Ю. Андрычыкам, увайшлі ў анталогію "Жыццё супраць смерці" і "Анталогію савецкай паэзіі XX стагоддзя", якая выйшла ў двух тамах.**

**У гэтыя дні нашаму славацкаму сябру спаўняецца 60 гадоў.**

## Самы праўдзівы барон у тэатральнай карчме



**...Хто яшчэ можа так утульна атабарыцца ў старажытнай карчме, начынне якой, дзякуючы сваёй магутнай і неабсяжнай фантазіі, ператворыць то ў сажалку з качкамі, то ў месца баявых дзеянняў, то ў палац турэцкага султана, то ў бурлівае мора?.. Ну вядома, той самы барон! Той самы Мюнхгаўзен, які, паводле п'есы Л. Браўсевіча ў пастаноўцы Зм. Нуянзіна, з нядаўняга часу пачувае сябе досыць утульна і нават раскошна ў Брэсцкім тэатры лялек. А трохвуголку знакамітага хлуса... перапрашаем, праўдалюбца! — прымервае на гэты раз артыст вядомы, вопытны, у характарных ролях абазнаны — Іван Герасевіч. Ды яшчэ і прывячаюць-частуюць яго паплечнікі-артысты не менш у лялечных дзействах напрактыкаваныя — Анатоль Мацвееў (Карчмар) і Тамара Тэвасян (Карчмарка). Можна сказаць, што спектаклем "Прыгоды барона Мюнхгаўзена" яны ўсе ўтрох адзначаюць досыць годны і адказны этап у сваім творчым жыцці: па некалькі дзесяткаў год у тэатры...**

**Лялькі і дэкарацыі для спектакля выштукаваў студэнт Акадэміі мастацтваў Віталь Трафімаў, які ўдала патрапіў у агульны дух "мюнхгаўзеанства" і карчомных закалотаў... Дарэчы, гэта ўжо другая спроба супрацоўніцтва маладога мастака з Брэсцкім тэатрам лялек. Станоўчы кантакт вымушае працягу?..**

**Музыку да "Прыгодаў" напісаў Васіль Кандрасюк — яшчэ адзін даўні сябра і прыхільнік тэатра.**

**І. Х.**

*На здымку: сцэна са спектакля "Прыгоды барона Мюнхгаўзена".*

*Фота. У. ДОЛЬКІНА*

БОЛЬ

# Адна надзея — на сябе...

Мая апошняя паездка на родную Хойніччыну адбылася падчас лістападаўскага рэферэндуму. Па добрай традыцыі на ўзмежжы Калінкавіцкага раёна спынілі машыну, выйшлі і пакланіліся матулі-зямлі, якая нарадзіла і ўзгадавала Івана Мележа, Барыса Сачанку, Міколу Мятліцкага, Аркадзя Кандрусевіча, Змітра Бяспалага, Алеся Шлега, Алу Канапельку. І пайшлі згадкі-ўспаміны пра час, пра людзей, факты, падзеі і, заканамерна — пра Чарнобыль і яго наступствы. Знакам журбы і смутку наклаліся яны на родныя абшары, знявечылі, пашматалі край і людзей радыяцыйнай пошасцю. Ужо тут, пры ўездзе ў Хойніцкі раён з боку Юравіч, няўзброеным вокам заўважаюцца сляды той лютай і вялікай бяды. Адсюль да ЧАЭС вунь як далёка, але дастаў выбух і гэты закутак, насыпаў радыенуклідаў усялякіх столькі, што і праз дзесяцігоддзе не ўдалося іх нейтралізаваць і абясшкодзіць. Паабапал бальшака ў палоне былынягу цэлыя масівы некалі такой шчодрай зямлі, пакінутыя паселішчы, паўразбураныя безгаспадарныя дамы. Недасведчанаму падарожніку можа здацца, якія нядбайныя людзі тут, бясклапотныя і лайдакі.

Не скажыце — колькі памятаю сваіх землякоў-палешукоў, столькі адзначаў іх мудрую гаспадарлівасць і ўменне трымаць парадак усюды і ва ўсім. Чысцінёй і ўтульнасцю вызначалася кожнае падвор'е і тут, на радзіме Мележа. У маіх родных Глінішчах спорна ішло ўсё. Славіліся яны ў раёне і далёка за межамі працай і песнямі, здатнасцю і майстэрствам — з пакалення ў пакаленне. Рэдка калі цяпер прыязджаюць дэлегацыі ў Глінішча, адно — радыяцыя палохае, а другое — жыццёвыя калізіі зацягнулі паясы не толькі на жывасе, але і на духоўным спасціжэнні багатай спадчыны класіка беларускай літаратуры і яго шчырых, гасцінных землякоў.

Не маглі мы не звярнуць у накірунку Глінішчаў. Тут, як і ўсюды на Хойнічыне, многа глыбокіх ран Чарнобыля. Але жыццё цепліцца і на параненай зямлі. Хоць і збяднеў калгас, але функцыянуе, працуюць школа і дзіцячы садок, па вечарах свецяцца вокны мясцовага Дома культуры.

Не той настрой і не той уздым цяпер тут. Адкуль жа яму быць, калі радыяцыйная атрута настолькі абмежавала жыццёвы прастор — у лес нельга хадзіць, ягады, грыбы — атрутныя, рыба з сажалкі і рачулак — забруджаная. Усё трэба правяраць, кантраляваць, каб хоць у нейкай меры засцерагчы сябе ад атруты. Такое патрабаванне. Толькі надта сумніцельна, каб кожны вясковец так рабіў — яму проста некалі займацца гэтым. Ды і прывык ён харчавацца сваім усім з агарода і падвор'я. Вось так па звычцы і цягне з лесу тыя ж грыбы і ягады, харчуецца імі, махнуўшы рукой на рэкамендацыі і патрабаванні.

У зачараваным коле невырашальных праблем цяпер праходзіць жыццё патрапіўшых у чарнобыльскую бяду людзей. Звыкла трываюць яны цяжкі ўдар лёсу, бо нейкай спадзеўкі на лепшае ў іх проста няма. Знямоглая ў палітычных гульнях дзяржава адшкадавала кожнаму ў парадку кампенсацыі за пражыванне на забруджанай тэрыторыі 18 тысяч беларускіх рублёў у месяц — на два з паловай боханы хлеба. Атрымлівай і будзь здаровы!?

Ад таго толькі, што даводзіцца кожны дзень глядзець на пашматанае Чарнобылем наваколле, можна захварэць. Кожная пядзя зямлі тут дыхае небяспекай. Пакуль з ёй ніхто і не спрабуе разабрацца. Горш, што апошнім часам настойліва стала ўкараняцца ў свядомасць людзей думка, што не ўсё так і страшна тут, як спрабуюць яго падаць. Быццам тады не разабраліся ва ўзроўнях радыяцыі забруджанасці і выпадкова напалохалі людзей. А тое, што самы нязначны ўзровень радыяцыі небяспечны, у разлік не прымаецца. Здаровы сэнс спрабуюць глушыць аптымістычнымі меркаваннямі і ўсялякага роду лжэканцэпцыямі наконт бяспечнага пражывання тут. Ні тады, адразу пасля аварыі на ЧАЭС, ні цяпер ніхто не сказаў праўды людзям аб яе суровых выніках. Сядзяць яны пад густым покрывам радыяцыйнай імглы, нібы на крызе з трэшчынай. Ніхто не спяшаецца падаць ім руку выратавання. Адна надзея — на сябе.

З кім ні даводзілася страчацца і гаварыць — ці гэта кіраўнік раённай улады, ці мясцовы, ці проста грамадзянін — чулася і адчувалася трывога не за сябе, а за сваіх нашчадкаў. Што можа даць хворая зямля, каго народзіць і наколькі прыдатным да жыцця і творчасці.

Рэаліі сёння несуцяшальныя: смяротнасць пераўзыходзіць нараджальнасць. Больш трэці дзяцей пакутуюць ад усялякага роду паслячарнобыльскіх анамалій. Паміраюць маладыя ад хвароб, пра якія да Чарнобыля ніхто нічога не чуў. "Засяляюцца" хутка могілкі і ў самых Хойніках, і вакол іх.

З надыходам кожнай вясны міжволі ў думках я там, у Хойніках. Пастаянныя кантакты з землякамі не дазваляюць быць абыякавым да іх лёсу. Хочацца хоць звычайным радком публіцыстыкі, праз гады і адлегласці нагадаць: людзі, Чарнобыль — не забава для палітычных гульняў і кан'юнктурных мэт. Гэта найвялікшая бяда стагоддзя, у якой хлусні і падману не месца. Спахапіцеся, агледзьцеся, адумайцеся...

**Арсен САКУН**

# ДЗВЕ НАВЕЛЫ

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

Бадзёрылася Ганна. Ні дзецям, ні суседкам не хацела паказваць, як тужліва ў яе штовечар на душы, як гняце яе сваёй цішынёй пустая хата. Вялікая, прасторная — нябожчык Васіль на сям'ю будаваў, каб усім месца хапіла, яна ніколі не пуставала: то Вальчыны дзеці прыедуць на канікулы, то Мішавы — пагасцяваць. А то і ўсе разам збяруцца — тады ўжо і спаць няма дзе класці, раскіне якія коўдры ды кажухі на далоўцы — і ўсе ўпокат. А тут вось за якія пару год зусім запусцела. Дзеці раз'ехаліся, Васіль памёр... Засталася Ганна адна ў хаце, і яе пакоі, што былі некалі цеснымі, здаюцца цяпер неабсяжнымі, і самае ціхае слова ў іх адгукаецца не звонкім смехам унукаў, а нежывым рэхам. З-за таго Ганна і не заходзіла амаль на чыстую палавіну, увесь час таўклася на цеснай куханьцы, якая хоць голасам радыё шторанніцы віталася з ёю ды грэла цёплым бокам печы.

З-за гэтай сваёй затоенай, нікому не выказанай тугі і стала Ганна выпіваць. Спачатку пакрышку — чарачку, паўтары — для апетыту, як сама казала. А потым заўважыла, што з гарэлкай самота на нейкі час адступае. І стала напіваццa мацней. Расставіць тады на стале картачкі дзяцей, унукаў — і гаворыць з імі. Раскажа пра сябе, распытае пра іх справы. І здаецца Ганне, што і яны ёй расказваюць: шчабятушка Ірынка, Надзіна малодшая, пра свой танцавальны гурток, а маўклівы Вальчын Сашка — пра тое, якога акуня злавіў на рыбалцы, а Мікола, заікаючыся — напужаў у дзяцінстве сабака, — распавядае, што карова ацялілася і бычка прывяла... І лягчэй тады на душы ў Ганны, бы і на самай справе з усімі пагаварыла, душу адвяла.

У той дзень Ганна атрымала пенсію, трыста дваццаць тысяч. "Бач ты, прыбавілі — цэлых дваццаць тысяч. Якраз на бутэльку гарэлкі", — парадавалася пра сябе старая. І пайшла ў краму, узяла бутэльку "рускай". Хацела яшчэ бляшанку кансерваў купіць, ды пашкадавала грошай. "Ат, добра мне будзе і капуста, невялікая пані", — махнула рукой.

Вечарам, выпаліўшы грубку і зачыніўшы курэй, Ганна навалiла поўную міску перакісалай капусты, паставіла на стол бутэльку, разлажыла фатаграфіі дзяцей і, падпёршы рукой шчаку, стала ўглядацца ў родныя твары. Пасля другой апарожненай стограмоўкі ўзяла ў рукі Мікалаеву картачку.

— Крыўдую я на цябе крыху, Коля. Ужо хто-хто, а ты мог бы застацца ў бацькавай хаце. Што табе там спатрэбілася, за светам? Веку ты ўжо немаладога, дзяцей у вас няма... Дык не ж, толькі Маруся сказала "едзем", адразу ванзэлкі стаў увязваць. Хоць і старэйшы ты ў мяне, сынок, а цяля цялём. Жонку, канечне, трэба слухаць, але ж і свой розум мець. А ты пабач з ёй, скваппніцай, і сам такім жа стаў. Ты ж не быў прагным, я памятаю. Малым залез у яблыкі да Антося, то сам мо і не з'еў ніводнага, усё меншым прынёс. Ох, і ўсыпала я табе за тыя Антосевыя яблыкі. А ты ўсё апраўдваўся: "Мамачка, я ж Надзьку з Мішкам хацеў пачаставаць, яны есці прасілі". А цяпер сам вунь як разжыўся, па пяцёра кабаноў у год колеш, а хоць бы каму крошку якую даў. Усё на грошы мяняеш, усё даляры тыя збіраеш. Нашто яны табе, сынок? Каму ты іх пакінеш? Ад смерці ўсё роўна не адкупішся. Лепей жыў бы, як чалавек, то б хоць людзі шанавалі. І да мяне не ездзеш, ужо два гады не быў. А я так хачу пабачыць цябе. Ты ж у нас з бацькам першынцам быў, мы так цябе чакалі. Усё бацька, як хату ставіў, казаў: "Міколу застанецца, хай маю сцежку далей топча". А ты цяпер і парог пераступіць не хочаш...

Каб не расплакацца да жалю і крыўды, Ганна яшчэ выпіла кілішак і ўзялася за меншага, Толіка:

— А на цябе таксама сварыцца буду. Ты чаму сядзіш у тых сваіх Навасёлках, нікуды не едзеш? Там, людзі кажуць, самая вялікая радыяцыя. Колькі табе можна гаварыць, колькі можна прасіць? Сябе не шкадуеш, то хоць дзяцей пашкадуй. У Волечкі адны вочкі засталіся, ні крывіначкі на шчочках. І Васілёк усё па бальніцах ды па бальніцах. А ты сядзіш на месцы, як той ёлупень, мяне шкадуеш! Што мяне шкадаваць, мне ўсё адно ўжо час паміраць! Не сёння, дык заўтра. А вам яшчэ жыць. Едзь, сынок, куды-небудзь падалей. У цябе ж рукі залатыя, бацькавы, ты ж без работы нідзе не застанешся. Вось хоць бы да Надзькі. Яна ж даўно цябе заве. Хоць і ў Надзі жыццё не цукар, праўду ты кажаш...

І Ганна ўзяла ў рукі Надзіну фатаграфію.

— Ведаю, донечка, што цяжка табе. І Сяргей твой хварэе і хлопцы павырасталі, адзець-абуць трэба, а грошай бракуе. І памочы чакаць няма ад каго. Коля, той, можа, і памог бы калі чым, дык хіба ж ягоная скваппнюга дасць? Ты ўжо не сярдуй на яго, донечка. Ён таксама шчасця не мае, хоць і жыве ў дастатку. А я табе памагу. Бачыш, во, пенсію сёння атрымала. Во, цэлых трыста тысяч. Ну, бутэлечку купіла, то ты ўжо не гневайся на мяне, дачушка. А астатнія я табе пашлю. Пакіну сабе сто тысяч на хлеб, а тыя заўтра ж і адашлю. І шкарпэткі тваіму Сяргею звяжу, каб ногі яму не мерзлі. Дапамагу, донечка, дапамагу чым змагу. А да сябе ты мяне больш не заві, не паеду я. Тут ужо паміраць буду, у сваёй хаце.

— І Вальцы скажы, каб не звала, — перакінулася Ганна на другую дачку. — Куды ж я да вас паеду за свет? Валька вунь зусім у Расію з'ехала — там і грошы цяпер другія, і жыццё. Што я там рабіць буду? Ды Валька больш і не пазаве, я ведаю. Нагневалася яна на мяне, як сказалі ёй, што гарэлку п'ю. Ну п'ю, дык што тут такога? Я ж нікому нічога дрэннага не раблю. Вып'ю, ды з вамі пагавару, ды паспяваю, дый спаць лягаю. А што ж мне адной у гэтай хаце рабіць? Я баюся яе, гэтай пустой хаты, ніяк прывыкнуць не магу, што ніхто да мяне не абзавецца. А вось як вып'ю, то і лягчэй становіцца. Не сярдуй на мяне, Валечка, пашкадуй матку старую ды дурную. Ці ж думала я калі, ці гадала, як вас малых гадавала, што адна ў пустой хаце буду век дажываць? А вось жа давялося, не судзі Бог нікому такой кары.

Пагаласіўшы над Вальчыным фотаздымкам, Ганна ўзяла Мішын:

— Ты, сынок, я ведаю, не судзіш мяне, не. Ты ўсё разумееш. Ты ў мяне самы разумны, нездарма ж адзін са ўсіх у людзі выбіўся. Сам выбіўся, ніхто цябе не пхаў. Ты, Міхасёк, у мяне адна ўцеха. І жонка ў цябе — і работніца, і чысцёха, і дзеткі добрыя ды ласкавыя. Каб табе і далей усё добра было. Глядзі ж, сынок, як я памру, то ты ў нашым родзе за галаву застанешся. Глядзі іх усіх, як я глядзела. Надзі, той памагчы трэба, цяжка ёй. А Вальцы раскажы, чаму я гарэлку п'ю, растлумач ёй, дурніцы, каб не думала пра мяне дрэнна. Толіка, як можна, то забяры да сябе, трэба ратаваць ягоных дзетак. На Міколу насварыся, няможна быць такім скваппным. Можа, хоць цябе паслухае...

Бутэлька незаўважна апусцела. Ганна выліла ў чарку апошнія кроплі, яшчэ раз пагладзела на твары дзяцей, прамовіла.

— Ну, родненькія мае, хай вам усё добра будзе. Глядзіце адно аднаго, як мяне не стане, — і выпіла да дна. Пасядзела яшчэ крыху, паківалася з боку ў бок, прыслухоўваючыся, што робіцца ў затуманенай галаве. Засмяялася. Затым заспявала — Васілёву любімую: "Шумяць вербы каля грэблі". Выцягвала старанна, бы на сцэне. Але не атрымалася, не цягнулася. Ды ўсё ж даспявала да канца і палезла на печ...

Раніцай суседка, якая, як заўсёды, прыйшла праведаць Ганну ды абмяняцца апошнімі навінамі, знайшла сяброўку непрытомную на падлозе, ля ложка. Суседка, вядома ж, усчыніла лямант, тут жа выклікалі "хуткую" і адправілі Ганну ў бальніцу, якой яна пазбягала ўсё сваё жыццё — казала: "Калі трэба чалавеку папраўляцца, то ён і сам ачухаецца, а калі лёс яму памерці, то і ўрачы не ўратуюць". А ўжо калі Васіль паўгода праваляўся па розных бальніцах — ад Хойнік да Мінска — ды і так і не ўстаў на ногі, то і ўвогуле ні пра якіх урачоў слухаць не хацела.

Тры дні, не прыходзячы да памяці, праляжала Ганна пад крапельніцай у рэанімацыйным аддзяленні. На чацвёрты, на досвітку, раскрыла вочы, абвяла імі ўсіх сваіх дзяцей, што сталі, заплаканыя, каля ложка, усміхнулася ім, памкнулася нешта сказаць, але не змагла, і тут жа ціхенька сканала...

Уладзімір ЛІПСКІ

# Хай дзеці не плачуць...

СТАРОНКІ ДЗЁННІКА

Дзеці-геніі!

Валерыя Кустава ў свае дванаццаць гадоў напісала:

***Для чаго мы жывём?..***
***Каб з кожнага жыцця браць грэх.***
***І адпраўляць яго ў нябыт?..***

Каторы дзень нашу кніжку юнай паэтэсы, якую яна мне падпісала. Чытаю, перачытваю, дзіўлюся.

Сёння — дзеці. Заўтра — гонар нацыі.

Як бы нам не спазніцца падтрымаць іх.

Двойчы сіроты.

Такімі сталі два выхаванцы сіроцкага дзетдома горада Чайкоўскага з Пермскай вобласці.

Іх, бязбацькавічаў, усынавіла сямейная пара з Канады. І трэба ж здарыцца: у аўтакатастрофе загінулі замежныя бацькі.

У расійскі дзетдом прыйшла ўрадавая тэлеграма з Канады. Апроч спачування, у ёй сказана, што сіроты, калі вырастуць, атрымаюць спадчыну і канадскае грамадзянства.

Вось такія правы ў дзяцей там, за акіянам.

А ў нас? Да мяне каторы раз прыходзіць і разрывае сэрца сваёй трывогай Галіна Іванаўна Цайкова з Мінска. Яна — апякунша сваёй унучкі Аліны.

— А дзе дачка ваша?.. Чаму яна не выхоўвае Аліну?

— Ох, горачка маё, — дачка шляецца па прытонах. Апошні раз бачыла яе тры гады назад.

— Як здарылася такое?

— Як?.. Выйшла замуж, а жыць няма дзе. Нарадзіла Ірку і ў тры месяцы аднесла ў яслі. А пасля яе выхоўвала свякруха. Развяліся з мужам...

Чужымі рукамі выхоўвалася Ірына. Такая ж доля чакала і яе дачку Аліну. Ад выхавання маці ўхілілася, выбрала разгульную долю. Прагуляла нават кватэру, пазбавіўшы Аліну жылля.

Вось і ходзіць Цайкова, шукае праўду па судах, просіць падтрымкі ў Дзіцячага фонду, які абараняе правы дзяцей.

Дзеці нашы — без віны вінаватыя. Мо таму сталеюць не па гадах? Мо таму і пасяляецца ў іх душах злоба? Мо таму і складваюць такія балючыя малітвы, якую напісала пад Новы год Аліна Капыціна, сірата пры жывой маці:

***Стары год, забяры з сабой***
***Сіроцкія дзіцячыя слёзы,***
***Дай сілы слабому,***
***Здароўя маломУ,***
***Божа, дай дзецям, што плачуць,***
***Надзею і шчасце...***

— Дзед, што такое валюта? — цікавіцца ўнук Антонік.

— Валюта — гэта душа, — адказваю яму.

Антонік, бачу, не верыць мне.

Тлумачу: душа — скарб чалавечы, яго валюта.

Доўга думаў.

І паверыў.

А ўсё таму, што ў яго чуллівая, даверлівая душа.

Як захаваць яе ў чысціні?

Кранулі лічбы з даклада міжнароднай арганізацыі "Выратуйце дзяцей": "у 1996 годзе ў "гарачых кропках" ваявала 250 тысяч салдат і баевікоў дзяцей. Сярод іх — пяцігадовы камбаджыйскі аўтаматчык, сямігадовы баявік курдскіх паўстанцаў. Падлеткі ваююць у Гватэмале. У ваенных аперацыях выкарыстоўваліся малалетнія дзяўчынкі...

Як тут не выгукнуць: што робіцца ў свеце?! Ці чалавечны наш свет?!

Унучка Маша просіць:

— Давай гуляць у хованкі.

Як адмовіць чалавечку, які пазірае на цябе чысцюткімі вачамі?

Бегаем па кватэры. Хаваемся. Бачу разгубленыя, амаль слёзныя вочкі Машы, калі яна не знаходзіць мяне. Выскокваю з хованкі. І радасць нашай сустрэчы — бязмежная!

Гэта гульня.

А часта бацькі, асабліва апошнімі гадамі, хаваюцца ад сваіх дзяцей усур'ёз. Парадзіха, у чым ёсць, уцякае праз акно раддома ад народжанага дзіцяці. Маці падкідвае сваю "крывіначку" ў пад'езд, забывае пра яе ў скверы, на сметніку... Бацька пераступае цераз дачку, сынка і перабягае на чужыя падушкі.

Нелюдзі! Ад вас збіраем штогодні "ўраджай": пяцьсот падкідышаў, адказнікаў.

Нядаўна ў гродзенскім раддоме пятнаццацігадовая мама адмовілася ад свайго дзіцяняткі. А калі ачомалася, то было ўжо позна. За дзве гадзіны да яе прыходу ў раддом, яе дзіцё... усынавілі.



Людзі — звяры.

Не верыце?

А вы адкрыйце вочы і ўбачыце: адзін сярод нас — выліты воўк, другі — хітры ліс, трэці — сыты барсук, чацвёрты — порсткая вавёрка, пяты — калючы вожык, шосты — палахлівы заяц...

Чаго не бывае ў свеце?

Прырода стварыла нам падобных звяроў. Узірайцеся ў іх і шукайце сябе: хто вы і хто побач з вамі?..

Чытаю паэму пятнаццатага стагоддзя "Рэйнэка-ліс":

***Может, злодей***
***от того и злодействует,***
***Что кто-то,***
***кто действовать должен —***
***бездействует.***

Як сучасна гучыць!

Няўжо за пяцьсот гадоў нічога не змянілася?

З газетнай паласы паласуюць маю душу дзеці-сіроты: Насця Ц., Славік В., Віця С., Віталік К. з Гродзенскага дома дзіцяці. Фоткі іх простыя: русявыя валасы, дзетдомаўскія кашулі, носікі — бульбінкай.

У біяграфіі кожнага адзін і той жа запіс: "Затрымка псіхалагічнага развіцця".

А вочы — розныя. Яны ўпіваюцца ва ўсіх, хто ў іх зазірае. Пільныя. Бураўчыкавыя. Як бы пытаюцца: дзе мама, хто возьме мяне ў сям'ю?..

Падалося: дзеці не проста просяць, а судзяць нас. Народныя засядацелі! Гнеўны іх позірк прыбівае цвікамі да крыжа.

А ці так успрымаюць дзіцячую трывогу тыя, хто кінуў іх, асірацію?

Грэшнікі, бойцеся суда праведнага. І хай апануе вас бяссонніца!

"Рынкавы сацыялізм" дакаціўся і да дзіцячых садкоў. У былых дзіцячых мурашнічках цяпер можна сустрэць замежнае пасольства, казіно, фірму купі-прадай, магазін...

Ды ёсць жа і прыемныя навіны!

У вёсцы Вялікія Межнікі, што на Шклоўшчыне, тры гады пуставаў дзіцячы садок. Аб'явілася сям'я Афанасьевых, Леанід і Галіна, якія стварылі сямейны дзіцячы дом. Да сваіх пяці дзяцей узялі на выхаванне стольні ж сіротаў.

Мясцовыя гаспадарнікі ўзяліся адрамантаваць дзіцячы садок. І зрабілі гэта адмыслова.

З наваселлем, дружная сям'я!

Прачытаў: француженка Жанна Кальман пражыла сто дваццаць два гады.

Зайздросціць ёй ці спачуваць?

Маё крэда: чалавек жыве столькі, колькі яму хочацца жыць, калі яму спадарожнічае любоў, калі ён сустракаецца з прыгажосцю.

І за гэта ўсё дзякуе Бога!

Нашай Машы — два гады і тры месяцы.

Божы чалавечак, што ўмееш рабіць?

Спявалць: "Хопі — я-я..." Ніхто не ведае, што гэта. Паверылі: Маша прыдумала сваю песню. Вырасце, раскажа — пра што.

Умее танцаваць пад розныя мелодыі.

Любіць гуляць у цацкі з дзедам.

Любы мой чалавечак, дзякуй, што даззваляеш падзяцінець. Дзякуй, што вяртаеш у маленства, растапляеш снег на маёй галаве.

Кім, якімі выходзяць нашы дзеці са школы?

Маскоўскія навукоўцы даказалі: першакласнікі маюць адзінаццаць псіхалагічных прыкмет. Да дзявятага класа іх застаецца толькі дзве.

Дзяўчынкі "нарошчваюць" хлапчуковыя рысы. А тыя, што застаюцца дзяўчынкамі, набываюць нервова-псіхічныя адхіленні.

Можа, таму і збіраем "ўмалотныя" ўраджаі жаночай злачыннасці, пазашлюбных падкідышаў, разводаў?..

Адукацыя патрэбна здароваму.

А мы каго вучым?

Сярод другакласнікаў Мінскай вобласці здаровы толькі кожны чацвёрты. Да дзявятага класа ў дзяцей у тры разы зніжаецца зрок, амаль у столькі ж павялічваюцца хранічныя захворванні...

Так што, сябры, рыхтуймася заносіць у Чырвоную кнігу здаровых дзяцей.

Патухла жыццёвая свечка мастака Юрыя Герасіменкі. Плача, стогне душа.

Мілы Юрась!

Ты — у гісторыі Беларусі і мастацтва. А яшчэ — дабрачыннага нашага фонду. Твая карціна "Хлопчык з буслікам" стала візітоўкай, эмблемай Дзіцячага фонду.

Ты — у біяграфіі "Вясёлкі", рэдкі, але жаданы госць.

Ты — у маім сэрцы, сціплы і таленавіты мастак.

Ты — у маёй хаце, у маёй сям'і са сваімі карцінамі...

Так рана пакінуў свет, які любіў бязмежна. Чакай нас на Небе. А мы абяцаем цябе помніць і любіць на Зямлі.

Каляды.

У календары — свята.

А ці ў кожнай душы яно?

Аб'яўіць, узаконіць свята працай, чым падараваць, зрабіць яго.

Давайце навучымся рабіць святы.

Сабе.

Сваім родным, сябрам.

І сваім... ворагам.

Так вучыць Бог: зрабі тое, што хочаш, каб зрабілі табе...

Неба і зямля.

Космас і карабель у ім.

Пасажыр і крэсла.

Узлёт і пасадка.

Паміж усім гэтым — жыццё.

А жыццё — Любоў!

Уздымі, неба, зямнога чалавека на тую арбіту, па якой кружыць Любоў.

## Усё цудоўна... і проста!

**Сапраўднае свята падарылі слухачам сталічнай філармоніі Дзяржаўны камерны аркестр Беларусі з дырыжорам Генадзем Праватаравым. Музычнай публіцы не трэба спецыяльна прадстаўляць ні гэты цікавы таленавіты калектыў, ні другога "віноўніка" свята — вялікага маэстра, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, народнага артыста Расіі, прафесара...**

**Праграму канцэрта складалі творы В. А. Моцарта: Дывертысмент сі-бемоль мажор і Канцэртная сімфонія, а таксама старадаўняя сюіта "З часоў Хольдберга" Э. Грыга і секстэт Я. Брамса.**

**У Канцэртнай сімфоніі Моцарта ўдзельнічалі і салісты: прафесар Маскоўскай кансерваторыі Аляксандр Мельнікаў (скрыпка) і Лючыя Ластаўка (альт). Выкананне госця з Масквы адрозніваліся яркай эмацыянальнасцю. Нярэдка адчувалася, што "голас" ягонай скрыпкі, чысты, мяккі, пявучы, у той жа час востры і тонкі мкнуў кудысьці ўвышыню, ахопліваў усю навакольную прастору. Такое эмацыянальнае выкананне дазволіла сапраўды адчуць радаснасць, святочнасць Моцартавай музыкі. Інтэрпрэтацыя Лючыі Ластаўкі была больш стрыманай, класічнай у поўным сэнсе гэтага слова, але, увогуле, Вялікі тэрцэт (аркестр і два салісты) прагучаў даволі гарманічна. Вядома, што настрой музыкантаў, публікі, агульная атмасфера канцэрта шмат у чым залежыць ад дырыжора.**

**Пра дырыжорскае майстэрства Г. Праватарава (а тое, што ён Вялікі мастак, маркую, ніхто не сумняваецца), калі адным словам, то можна сказаць — Прыгожа! Прыгожы, вынаходлівы, нечаканы, непрадказальны і непаўторны кожны ягоны жэст, незвычайную выразнасць якому надае рух кончыкаў пальцаў, кісцей рук, плеч, вачэй... Паводле такой цудоўнай пластыкі рухаў нават можна пазнаць, і якія інструменты іграюць, і нават якім штрыхом.**

**Увогуле, Г. Праватаравым за дырыжорскім пультам нельга не любавацца. У залацістай камізэльцы і "матыльку" такога ж колеру, заўсёды адкрыты да Музыкі і яе выканаўцаў, ён увасабляе сабой вобраз вечна маладога Музыканта, у якога ўсё цудоўна, геніяльна і... проста. Маркую, шмат хто са слухачоў звярнуў увагу на ягоныя рухі пры канцы твора: ледзь прыкметны ківок галавы ў знак паклону, амаль усмешка задавальнення на твары і хуткі адыход са сцэны. А вось падрыхтоўка да выканання пачынаецца, як правіла, з "позы Крузенштэрна", пасля чаго — хуткі ўзмах рук, і на змену цішыні прыходзіць Музыка... Цікава, што пры канцы ўсяго канцэрта Маэстра паціснуў рукі не толькі вядучым выканаўцам партый першых, другіх скрыпак, альтоў, віяланчэляў, але і нават адзінаму кантрабасісту...**

**Застаецца дадаць, што добрае высокакультурнае выкананне аркестра мажорнай (усе творы былі мажорныя), з густам падабранай праграмы зрабіла мажорным і настрой у зале. Слухачы нібыта акунуліся ў мяккую, цёплую, сонечную атмасферу гучання музыкі вядомых класікаў, сааўтарам якіх у той вечар стаў і Вялікі маэстра Генадзь Праватараў.**

**Наталля КСЁНЦ**

## "Беларускія калумбы"

**У Чырвоным касцёле на плошчы Незалежнасці працуе мастацкая выстава "Беларускія калумбы". Яна стала магчымай, дзякуючы намаганням старшыні асветніцкага клуба "Спадчына" А. Белага і Інфармацыйнай службы Амбасады ЗША ў Беларусі. На выставе прадстаўлены жывапісныя і графічныя партрэты вядомых асоб беларускай дыяспары — тых, хто адкрыў Беларусь свету і Беларусі свет. Гэта Наталля Арсеннева, Міхась Забэйда-Суміцкі, Янка Запруднік, Аўген Калубовіч, Барыс Кіт, Антон Шукелойць і многія іншыя палітычныя дзеячы, людзі культуры, навукоўцы...**

**Увогуле прадстаўлена каля 70 партрэтаў, выкананых мастакамі Анатолем Крывенкам, Сямёнам Герусам, Міколам Рыжым. Людзі на партрэтах — жывая гісторыя Беларусі і Вольнага Свету. Іх лёс — мост паміж Бацькаўшчынай і Светам.**

**Хтосьці сказаў, што родную зямлю нельга панесці на падэшвах ботаў, але можна захаваць у сэрцы. "Беларускія калумбы" засталіся беларусамі і за акіянам.**

**П. В.**

ВІНШУЕМ!

# Сцвярджэнне любоўю

***Заўчора Галіна Дзягілева, стваральніца, мастацкі кіраўнік і актрыса унікальнага Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зніч" адзначыла "круглы" юбілей. А ў сярэдзіне мая спаўняецца 30 гадоў яе тэатральнай дзейнасці. Нагода для сустрэчы з актрысай — больш чым дастатковая.***

**— Як складваўся ваш акцёрскі лёс, спадарыня Галіна?**

— Я скончыла наш тэатральна-мастацкі інстытут у 1968 годзе і была накіравана ў Віцебскі тэатр імя Якуба Коласа, дзе працавала амаль 17 гадоў. Там сыграла 54 ролі класічнага і сучаснага рэпертуару, з іх добрая палова вядучых. Назаву некаторыя: Ліза з "Багны" А. Астроўскага, Марына з "Улады цемры" Л. Талстога, Наташа з "Прыніжаных і зняважаных" Ф. Дастаеўскага, Элена з "Раба свайго закаханага" Лопэ дэ Вэга, Гера з "Многа шуму з нічога" У. Шэкспіра, Жэнька Камялькова са спектакля "А зоры тут ціхія" Б. Васільева, Тамара з "Закона вечнасці" Н. Думбадзе, Зоя Бярозкіна з "Клапа" У. Маякоўскага, Святлана з "Таблеткі пад язык" А. Макаёнка, Лада са "Снежных зім" І. Шамякіна...

**— Як разумею, у Віцебску вы маглі і далей множыць свае поспехі. Але — паклікала мара?**

— Так, мара. Мара заняцца самай любімай справай, выйсці на самастойны бальшак. З 1985 года я ў Мінску, з 1986-га — у філармоніі. Тут распачала працу над стварэннем праграм па паэзіі Яўгена Шабана, Анатоля Вярцінскага, Янкі Купалы. У снежні 1989-га выступіла з монаспектаклем "Выгнанне ў рай" (аб жыцці Рагнеды) чаргу вызначае прафесіяналізм. Але артыст абавязкова павінен быць асобаю. Ні ў якім разе не марыянеткаю, выканаўцам толькі ў вузкім сэнсе слова. Калі акцёр — асоба, якая нераўнадушна ўспрымае свет, гэта будзе бачна ў любым створаным ім вобразе.

**— Хто быў вашым настаўнікам? Хто аказаў на вас уплыў як тэатральны дзеяч і чалавек?**

— Тут пра адну асобу казаць не выпадае. Гэта найперш рэжысёры коласаўскага тэатра Барыс Эрын і Сямён Казіміроўскі, гэта, вядома ж, і народны артыст Анатоль Міхайлавіч Трус, якога я называю "хросным бацькам". У "ЛіМе" яшчэ ў 1971 годзе быў ягоны артыкул "Чалавек, у якога я веру". Гэта — пра мяне. Хачу назваць таксама Іосіфа Матусевіча, Фёдара Шмакава, Галіну Маркіну, рэжысёра Канстанціна Гусева, з якім пачынала працу ў філармоніі.

**— Я ведаю вас як асобу, якая шчыруе на карысць нацыянальнага Адраджэння. Ці перажываеце вы радасці і пакуты цяпер — на прыкметна паніклай адраджэнскай ніве?**

— Я перажываю, пакутую, калі адчуваю сябе адзінокай у гэтым свеце, калі няма з кім перамовіцца на роднай мове, а паіншаму я прынцыпова не размаўляю з 1989 года, пасля прыезду на Беларусь Данчыка і знаёмства з ім, пасля роднаснага, можна сказаць, збліжэння з незабыўным Новікам-Пеюном. Пакутую, калі свае людзі, добрыя беларусы адзін аднаго не падтрымліваюць, а папікаюць, бачачы толькі недахопы (а сам жа кожны не без граху, як вядома). Пакутую, калі мы прыязджаем са спектаклем у школу, а яна ўжо атрымала "ўстаноўку" не падтрымліваць нацыянальныя накірункі. Ад усяго гэтага горка і сорамна. Як думала некалі Ларыса Геніюш, "што ж будзе з унукамі", — думаю цяпер я пра гэта ўсё часцей. За што нас знішчаюць з вясёлым выглядам?! І мы весялімся, як тыя ў анекдоце, у якіх усё забралі, а яны ўжо скачуць ад радасці. Страшна! А шчаслівая бываю, калі ўсё-такі адчуваю, што гэтыя іх намаганні — марныя, што ў нас ёсць надзея на будучыню, што ёсць Беларусь і будзе!



*У знічаўскіх "Віленскіх мроях".*

**...рожа ставілася да чалавечай асобы?**

— Я нікога не суджу разам з пакутніцай Геніюш, я проста жыву з яе "Споведззю" як з дарагім скарбам, прашу дапамогі нам усім і пытаюся: "За што?"

**— Вы па-акцёрску асэнсоўвалі і ажыццяўлялі даволі розныя спектаклі: "...Любіць!" паводле вершаў А. Вярцінскага, "Мне сняцца сны аб Беларусі" паводле вершаў Я. Купалы, "Белы сон" паводле твораў Л. Геніюш і вершаў А. Разанава, У. Арлова, В. Ластоўскага, У. Караткевіча. Параўнальна нядаўна ў вас ідзе "Кроткая" паводле аднайменнага твора Ф. Дастаеўскага ў перакладзе А. Каляды... Галоўныя ўдзельнікі вашых абанементных спектакляў — творцы: народны пісьменнік В. Быкаў, народныя паэты Р. Барадулін і Н. Гілевіч, а яшчэ — Г. Бураўкін, В. Іпатава, У. Арлоў, С. Законнікаў... Што, на вашу думку, яднае названых творцаў?**

— Прафесіяналізм. Высокі прафесіяналізм яднае розных творцаў, прымірае іх розныя погляды, характары і дае магчымасць кожнаму заставацца самім сабой.





*Ва "Уладзе цемры" Л. Талстога і "Багне" А. Астроўскага ў Коласаўцаў.*

на рэспубліканскім фестывалі тэатраў-студый у Мінску, заняла на ім першае месца — за выкананне жаночай ролі. Гэта быў адзіны монаспектакль на тым фестывалі. Ён засведчыў нараджэнне новага жанру ў нацыянальным тэатральным мастацтве. Сваё афіцыйнае існаванне "Зніч" пачаў з лютага 1991 года.

**— Уладзімір Немiровіч-Данчанка сцвярджаў, што "тэатр, як і ўсякі вялікі мастак, павінен адгукацца на найвысакародныя плыні сучаснага жыцця. Інакш ён стане мёртвай установаю". Ці згодны вы з такой пазіцыяй?**

— Я згодна. І разумею гэта так: артыст павінен быць грамадзянінам.

**— Ваша ўяўленне пра ідэальнага артыста?**

— Такіх не бывае ў прыродзе.

**— Слоўнік тлумачыць, што акцёр — гэта прафесійны выканаўца роляў. Вы маглі б што-небудзь дадаць да гэтага вызначэння?**

— Вядома, кожную прафесію ў першую

**— Скажыце, як вы ўсё ж адважыліся на рэжысёрскую справу? Я лічу, што ваш "Маленькі анёлак" (п'еса С. Кавалёва паводле вершаў Кармэн Барнос дэ Гаштольд), з яго бязмежнаю любоўю да ўсяго жывога, з яго цудоўнай гукаперайманьнасцю і рухавасцю, з яго паэтычнай узнёсласцю, — узор спектакля для дзяцей.**

— Дзякуй на добрым слове. А як рашылася? Сама спецыфіка монаспектакля вымушае быць рэжысёрам, скажам так, у часе сваіх прадстаўленняў. Калі набываецца вопыт, то ён, бывае, пераходзіць і на пастаноўкі з іншымі артыстамі.

**— Тэатр часам называюць маральным судом. Ці ўспрымаецца вамі ваш "Белы сон" як маральны суд асобы над таталітарнай сістэмаю, якая гэтак ва-**

**— "Зніч", як вядома, тэатр качэўны. Усе адрасы вашых блуканняў па пакутах у пошуках сцэны і запомніць цяжка?**

— Помняцца! Нацыянальная бібліятэка, Малая сцэна тэатра Я. Купалы, ТЮГ, цэнтр "Каляндар", інвацэнтр, касцёл святых Сымона і Алены... Усе нашы складанасці — ад жыцця "ў прымаках".

**— Вы — праваслаўная. Як удалося "Зніч" знайсці прытулак у каталіцкім храме?**

— Гэта няпростае пытанне. Многія чапляюцца да слова "Зніч". Так, я шчыра праваслаўная, і таму назва "Зніч" дапамагае мне не забываць пра гэта; калі агонь мастацтва "буяе моцна — ёсць межы". А тое, што ў храме, дзякуючы ксяндзу

Уладзіславу Завальнюку і Божай ласцы, наш тэатр "Зніч", з такой назвай і праваслаўнай кіраўнічкай, знайшоў прытулак, сведчыць: добрая справа яднае добрых людзей, а Бог дапамагае.

**— Як вы думаеце, чаму ў вас усё яшчэ няма ганаровага звання? Дзяржава як бы не бачыць вашай карыснай грамадству самаадданай і плённай працы? Вядома, справа не ў званнях, але ж, калі яны існуюць і імі карыстаюцца...**

— Адкажу словамі любімага нашага Янкі Купалы:

***Буду пець не за славу праз вас абяцаную,***
***Буду пець, бо люблю свайго краю паляны,***
***Буду пець, бо люблю сваю песню загнаную,***
***Буду пець,***
***бо мне дар гэты доляй пасланы...***

**— Якой уяўляецца вам Беларусь у 2010-ым, скажам, годзе?**

— Не магу адказаць на гэтае пытанне — "душаць слёзы", хочацца верыць, што пасля будучага "ачышчэння" прыйдзе Вырата-ванне...

**— Што вы скажаце аб праблеме выхавання эстэтычнага густу і ўвогуле культуры юных гледачоў і слухачоў?**

— Я не займаюся выхаваннем "эстэтычнага густу і ўвогуле культуры юных гледачоў і слухачоў", як вы кажаце. Я шукаю іх, хачу, каб яны таксама ўбачылі, адчулі, перажылі тое, што перажываю я сама... Але пэўна, у рэшце рэшт, гэта і ёсць выхаванне ўсяго лепшага ў людзях і ўва мне.

**Р. S.** Тут можна было б паставіць і апошнюю кропку. Але адчуваў, што нешта, можа быць, самае галоўнае, не прагучала. Што? Ды, бадай, тое, што сп. Галіна і не магла сказаць пра сябе. Таму я звярнуўся да нашых вядомых майстроў паэтычнага слова Вольгі Іпатавай, Анатоля Вярцінскага і Сяргея Законнікава з адным пытаннем: як яны ўспрымаюць Галіну Дзягілеву. Вось што яны сказалі.

**В. Іпатава:**

— Мне цяпер самая балючая думка — гэта: чаму сярод нашых дзеячаў культуры так мала па-сапраўднаму заклапочаных нацыянальнай справай людзей. Кожнаму адукаванаму чалавеку вядома, што мастацтва без нацыянальнай ідэі выхалашчана. Нацыянальная ідэя заўсёды прысутнічае ў апасрэдаванай ці непасрэднай форме. Дык вось, Галіна Дзягілева якраз не толькі актрыса, не толькі чалавек мастацтва, але і асоба, асоба нацыянальна дзейсная. Гэты сімбіёз ці яднанне таленту і вялікай нацыянальнай працы, якая так патрэбна нашай зямлі, і складае для мяне галоўную вабнасць гэтага вобраза.

**А. Вярцінскі:**

— Я думаю, што цяпер у Беларусі няма чалавека, які мог бы спаборнічаць з Галінай Дзягілевай у папулярызацыі беларускай паэзіі. Яна стварыла тэатр, пра які марылі Ганна Рыжкова, Марыя Захарэвіч. Выдатна, што ў нашай культуры ёсць чалавек, які жыве гэтым, для якога гэта сэнс жыцця. Яе можна ўявіць чароўнай птушкай, якая нястомна нясе на крылах наша паэтычнае слова.

**С. Законнікаў:**

— Тэатр аднаго акцёра — гэта з'ява, вядомая ў мастацкім жыцці народаў свету. У нас жа рызыкнуць на такое ахвотнікаў няма. Для таго, каб прыцягнуць увагу гледачоў, працаваць стабільна і плённа, трэба мець не толькі несумненны талент, прытым талент не камернага, а шырокага дыяпазону, але яшчэ і арганізатарскія здольнасці, дзелавітасць і мужнасць. Усе гэтыя якасці ёсць у Галіны Дзягілевай, а таму яе рызыка апраўдалася. Малою кагортаю "Зніч" сёння робіць для беларускай нацыянальнай культуры тое, чым не могуць пахваліцца нават салідныя мастацкія калектывы. Я знаёмы з Галяю даўно, сачу за ростам яе таленту і ведаю, які цяжар ляжыць на далікатных плячах гэтай мілай, абаяльнай жанчыны, якія няпростыя духоўныя пытанні і праблемы пастаянна вярэдзяць яе чуйную, скіраваную да людзей душу, шчырае, добрае сэрца. А таму сардэчна, па-сяброўску вітаю Галіну Аляксееўну, жадаю ёй і тэатру "Зніч" творчага даўгалецця і новых удач.

**Гутарыў з юбіляркай**
**і яе сябрамі-паэтамі**
**Васіль ЖУКОВІЧ**

МАЙСТЭРНЯ

# Жывапіс сонцам

Калі на світанку ўсесаюзнай шокавай тэрапіі ў першы раз шалёна падскочылі цэны на фарбы, я падумаў: "Што ж цяпер будзе рабіць Мікола Бушчык?" Вялікая радзіма тады дзейнічала па класічным прынцыпе "гарматы замест масла", і прэм'ера Паўлава не хвалявала, сярод іншага, і тое, што, прымітыўна кажучы, карціна ствараецца па правілах бутэрброда. Вядомы музейны вастраслоў Косця Барабанаў нават дасціпна расшыфраваў каталожную абрэвіятуру "Х., м. — холст, масло", як "хлеб, масло". Многія мастакі тады эканомілі цюбікі, як патроны. Карэктаваліся манеры, пастознасць мазка станавілася дапаможным сродкам для прафілактычнага галадання, у моду ўваходзіла гэткая фарбавая ёга.

Бушчык нібыта не заўважыў змены цэтлікаў. "Ёсць кампрамісы і кампрамісы", як казаў класік. А калі сур'ёзна, то фармальныя прыёмы аказаліся не адвольнай "надбудовай", а арганічнай, жывой часткай эстэтычнай канцэпцыі жывапісца. Выступаючы на рэспубліканскіх выставах яшчэ ў рангу маладога мастака, Мікола звярнуў на сябе ўвагу разняволенасцю, незакамплексаванасцю ў адносінах да колеру і фарбавай масы. У дамінуючым экспазіцыйным наваколлі шэрасці і кан'юнктурнай чырвані творы Бушчыка ярка свяціліся ў нізцы з некалькімі іншымі імёнамі — маякамі здароўя, не спляжанага афіцыёзам таленту. Нягледзячы ні на што, было ясна, за кім будучыня і хто прадстаўляе сапраўднае беларускае мастацтва. Цяпер можна прызнаць, што прадчуванні не падманулі.

За дваццаць год самастойнай працы выпускнік Беларускай акадэміі мастацтваў прайшоў пэўную эвалюцыю. Настолькі плаўную, нетаропкую, што яе прыкметы не ўдавалася заўважыць ад выставы да выставы. Хутчэй прыходзіцца вымяраць яе хаду пяцігодкамі і сямігодкамі (няхай маэстра выбачыць за гэтую вульгарна-сацыялагічную арыфметыку). Мастацтва, аднак, гэта не тэхніка, дзе эвалюцыя абавязкова азначае ўдасканаленне і паляпшэнне. Кожны перыяд мае сваю самакаштоўнасць. Але нязменным заставаўся амаль паганскі культ колеру. Калі прасторы зямлі абмяжоўваліся для нас ад Курыл да Брэста, жывапіс Бушчыка асацыяваўся перш за ўсё з прыбалтыйскімі вітражамі. Жалезная заслона стала празрыстай, мы шмат дзе паездзілі. Але — дзіва! — відавая паралель цалкам захавала сваю сілу.

Палітра мастака ў фантазіі тэарэтыка ўяўляецца катлом чараўніка. Вогненныя фарбы булькацяць і просяцца на волю. Паводле аднаму яму вядомага рэцэпту і, можа, нават з заклінаннямі ён складае гамы, чэрпае натхненне ў таямнічым полымі. Верыцца толькі, што словы і думкі — светлыя, нясуць насалоду і шчасце. Пэндзаль пакідае на палатне і кардоне пякучыя сляды лавы. Яны застываюць, як смальта, але ўсё адно захоўваюць назаўсёды чыстую, празрыстую святланоснасць. Дарэчы, чаму б Бушчыку не паспрабаваць свае сілы ў вітражы і сапраўды не стварыць нізку ў жывапісе сонцам? Ягоныя станковыя карціны настолькі патэнцыяльна вітражныя, што часам проста гатовыя служыць эскізамі для гэтага віду мастацтва. Шкада, вітражом у нас займаецца столькі аматараў, якія вартыя ў лепшым выпадку рэзаць шкло на Камароўцы.

Нават фігурныя кампазіцыі жывапісца падпарадкаваны "ўмоўнай" геаметрычнай схеме. Ён не ўглядаецца ў твары, не імкнецца да партрэтаў, захапляючыся архетыпамі — зноў жа, загадкавымі і не да канца акрэсленымі. Анёлы, варажбіткі, іншыя цьмяныя істоты з іхнімі нячутнымі размовамі. Контуры грунтоўна вызначаюць дэталі і рытмы, згусткі фарбаў імкнуцца да працейшых формаў — прамакутніка, конуса, кола. Сапраўды, карціна нібыта канструіруецца. Толькі, безумоўна, не з разлікам халоднай функцыянальнасці. Мае любімыя вобразы ў творчасці Бушчыка — архітэктурныя краявіды. Цэлы палацаў, цэркваў, фартэцаў сатканыя з плыняў святла, кантрасты гарачага і халоднага насычаюць напружаную прастору карцін. Знаёмыя ўсім помнікі афарбаваныя, адушаўлёныя энергіяй захаплення.

Апошнім часам карціны прыроды часцей за іншыя жанры прываблііваюць мастака. Каштоўным зязннем смарагдаў, малахітаў, рубінаў здзіўляюць гледача, які непрызвычаены бачыць такім "навакольнае асяроддзе". Нібыта толькі паэтам дазволена нештодзённае бачанне:

***Неба трапічнае, белае сонца,***
***Пэндзаль сусвет спавядае,***
***Толькі бяроза з роднай ваколіцы***
***Пра Беларусь нагадае.***

*(Ірына Багдановіч)*

Мінская майстэрня Міколы Бушчыка, узнесеная на паддашша высотнага гмаху, відаць, таксама дыктуе адмысловы ракурс назірання. Традыцыя каларызму, устойлівая, але не самая генеральная ў нашым жывапісе, трымаецца менавіта на такіх мастаках. І за гэта ім дзякуй ад усіх нераўнадушных.

**Валеры БУЙВАЛ**







*На здымках: "Гродна. Уражанні" 1989, "Пунцовы вечар" 1993.*

# "Бліскавіца" парадавала!

У сталічнай філармоніі адбыўся канцэрт ансамбля музычных і харэаграфічных мініяцюр "Бліскавіца". Гледачоў вельмі ўразіла высокае майстэрства калектыву, таму, мабыць, атмасфера ў зале была цёплая, прыязная.

Ансамбль, утвораны 6 гадоў таму, працуе пад кіраўніцтвам Ірыны Канавальчык і Міколы Дудчанкі. Арыгінальная харэаграфія (пастаноўшчык М. Дудчанка), цудоўныя касцюмы (мастак А. Піскун), цікавыя музычныя апрацоўкі (А. Балотнік, І. Назарэнка, Э. Фарбераў) для інструментальнага складу, — усё было бліскуча ажыццёўлена праз артыстычнае танцавальнае відовішча пад віртуозную ігру музыкаў.

У групе суправаджэння — 2 скрыпкі, кларнет, флейта, цымбалы, 2 баяны, кантрабас, ударныя. Але ў шэрагу нумароў праграмы былі скарыстаны і іншыя інструменты (у тым ліку надта рэдкія): флейта-пікала, флейта Пана, ксілафон, акарына, флексатон, "архаічныя" (каса, гаршкі). Прадэманстравалі сваё майстэрства як салісты І. Ляўчук (драўляныя духавыя), Е. Чырык (цымбалы), А. Зубко (ударныя), Г. Яскевіч (вакал у народнай манеры выканання) і іншыя музыканты.

Усіх слухачоў прыемна ўразіла салістка, якая зусім нядаўна супрацоўнічае з "Бліскавіцай". Знаёмцеся: Алена Сало — студэнтка 5 курса Беларускай акадэміі музыкі (клас І. Шыкуновай). Алена ўжо лаўрэат Міжнароднага фестывалю хрысціянскай музыкі "Магутны Божа" (Магілёў-94), дыпламант Міжнароднага конкурсу "Янтарный соловей" (Калінінград-96). Апошнім часам удзельнічае ў многіх канцэртах, выконваючы класічную, духоўную музыку.

Цікава, што толькі закончыўшы музычную школу і вучылішча па класе акардэона, Алена вырашыла паспрабаваць сябе ў вакале. Не адразу пашанцавала ёй з педагогам, які б мудра і паступова развіваў яе моцны і прыгожы па тэмбры голас, дадзены Алене прыродай. Так, па віне аднаго з выкладчыкаў яна ледзь не страціла голас! Але шчаслівы выпадак прывёў да Ірыны Сямёнаўны Шыкуновай, якая і ўзрасціла талент.

Хто слухаў Алену Сало, пагодзіцца са мною, што ў яе рэдкі тэмбр, ды яшчэ роўнае гучанне ў дыяпазоне больш за дзве актавы: спалучэнне глыбіні і аксамітнасці са срэбнасцю. (Вакалісты-педагогі акадэміі пасля доўгіх спрэчак паразумеліся на "сярэднім" варыянце вызначэння: "каларатурнае меццa-сапрана"). На канцэрце "Бліскавіцы" Алена ўразіла тэхнічнасцю ў выкананні класічнага рэпертуару. А яшчэ фальклорнымі нумарамі. Тут і песня-танец "Вербічанька", і жвавая "Каціліся чорна галка" ў апрацоўцы Д. Смольскага, і кітайская народная песня "Месяц" (у цікавай музычнай апрацоўцы І. Назарэнкі). Дарэчы, у багатым рэпертуары спявачкі ёсць творы на розных мовах свету: на іўрыце, шведскай, кітайскай, французскай, англійскай, нямецкай, італьянскай...

Увогуле, гэты канцэрт стаўся святам і для музыкантаў-прафесіяналаў, і для тых, хто хацеў адпачыць ад жыццёвых праблем.

**Наталля ХІТРЫЦОВА**

# Гэты конкурс малады...

Так, ён яшчэ вельмі малады — конкурс імя Канстанціна Горскага. І ўзяў ён пад сваё крыло юных выканаўцаў музычных школ і школ мастацтваў Лідскага метадычнага аб'яднання.

Па ініцыятыве Лідскага музычнага вучылішча, са згоды і ўхвалы Упраўлення культуры Гродзенскага аблвыканкама і Лідскага гарадскога аддзела культуры, пачынаючы з 1995 года мы ладзім гэтае спаборніцтва для выканаўцаў на фартэпіяна, струнных, духавых, народных інструментах, алімпіяду па музычна-тэарэтычных дысцыплінах.

Конкурс носіць імя нашага земляка — Канстанціна Горскага, скрыпача і кампазітара, які нарадзіўся ў Лідзе ў 1859 годзе. Год ад году імпрэза набірае моц і размах — як па колькасці ўдзельнікаў, так і па геаграфіі. Разам з вялікімі школамі, у якіх ужо свае традыцыі, "расце" глыбінка: Міхалішкі, Радунь, Казлоўшчына, Цырын, Наваельня, Бенякoні, Першамайск, Юрацішкі, Мір.

Нядаўна прайшоў Другі конкурс імя К. Горскага для піяністаў і скрыпачоў. У ім удзельнічала 86 выканаўцаў. Дыпломамі І-ай ступені ў піяністаў адзначаны Ірына Трубеева (Ліда), Юлія Караленя (Ваўкавыск); у скрыпачоў — Алена Драко (Ліда). Расце ўзровень падрыхтоўкі вучняў раённых і сельскіх школ. Дыпламантамі конкурсу таксама сталі Уладзімір Іваноў, Дзмітрый Лобань (Смаргонь), Наталля Мілько (в. Міхалішкі Астравецкага раёна), Алена Лукошка (Навагрaдак), Эдгар Вярсоцкі (Радунь), Вольга Караленя (Ваўкавыск).

Сапраўды святочную атмасферу для ўдзельнікаў конкурсу і іх выкладчыкаў дапамаглі стварыць спонсары: гарадскі аддзел культуры (М. Ёрш); гарадскія цеплавыя сеткі (дырэктар П. Гардзіёнак); камбінат зб[illegible]адуктаў (дырэктар В. Вішнеўскі); фір[illegible]ас" (А. Чысцякоў). Больш бы нам такіх мецэнатаў культуры, яна зараз у іх мае вялікую патрэбу.

Конкурс стаўся сапраўднай падзеяй у музычным жыцці Ліды. Культура горада атрымала не толькі магутны зарад мастацкай энергіі, але і мноства імпульсаў на перспектыву.

А арганізацыйны камітэт конкурсу ўжо пачаў падрыхтоўку да правядзення ў сакавіку 1998 года Другога конкурсу імя К. Горскага для выканаўцаў на народных інструментах.

**Т. ГУСЕВА,**
**намеснік дырэктара Лідскага музычнага вучылішча**

ФРАГМЕНТЫ

**Летась у Мінску быў урачыста адкрыты Нямецкі культурны цэнтр імя Гётэ. Тыя, хто атрымаў запрашэнне на гэтую ўрачыстасць, былі нямала здзіўлены. Пра якое, маўляў, адкрыццё ідзе гаворка, калі Інстытут Гётэ ў Мінску дзейнічае ўжо тры гады; калі, бадай, кожны ў сталіцы Беларусі, хто мае дачыненне да культуры, альбо чуў пра мерапрыемствы Інстытута Гётэ, альбо браў у іх удзел? Аднак, па нямецкіх стандартах, паўнавартасным Цэнтр лічыцца толькі тады, калі ў ягонай структуры ёсць бібліятэка. І менавіта стварэннем бібліятэкі пры Мінскім цэнтры імя Гётэ завяршыўся ў леташнім кастрычніку ўстаноўчы перыяд.**

**Культура ўвогуле дорага каштуе, а прапаганда нацыянальнай культуры за мяжою — тым болей.**

**Мінскі Гётэ-цэнтр — адзін са 150 культурных цэнтраў імя Гётэ, якія прапагандуюць нямецкую мову і культуру ў больш як 70 краінах свету. Час ад часу ў ФРГ падымаецца пытанне, ці не занадта вялікая гэта раскоша нават для багатай краіны — мець столькі культурніцкіх прадстаўніцтваў за мяжою?**

**Публікацыя Рольфа Міхаэліса ў "Дзі Цайт" (N 17 за мінулы год) мела мэтай азнаёміць грамадскасць Германіі з дзейнасцю нямецкіх культурных цэнтраў у Сіднеі (Аўстралія) і Мінску (Беларусь), падкрэсліць значнасць работы ў галіне культуры, пераканаць у неабходнасці не скарачаць фінансаванне культурных праграм за мяжою.**

**Прапануем нашым чытачам фрагменты публікацыі, што датычаць Беларусі.**

# “Мы ёсць, каб не быць”

●

Кантраст наўрад ці мог быць горшы. З гарачага лета ў цудоўных бухтах Сіднея — у сцюдзёную мінскую зіму. Ад 26° у цяню — да мінус 30°. Але стынеш тут не ад холаду, калі ў гасцініцы на некалькі гадзін псуецца ацяпленне або перастае цячы вада з крана. Холад ахоплівае ад адчування, быццам апатыя большай часткі насельніцтва заражае і цябе.

“Зразумейце, калі ласка, — гаворыць перакладчыца Інстытута імя Гётэ, якая суправаджае мяне ў мемарыяльны музей паэта Янкі Купалы (1882—1942), — нам на працягу стагоддзяў адмаўлялі ў праве называцца Народам, нам не дазвалялася размаўляць на роднай беларускай мове. Указ імператара Мікалая І ад 1840 года забараняў нават самі словы “Беларусь”, “беларусы”. З Украінай было не так, яна называлася хоць бы Маларосіяй, мы ж яшчэ ў царысцкай імперыі былі “Паўночна-заходнім краем”. Усе таптані нашу зямлю — спачатку ідучы паходам на Маскву, а потым, адступаючы, зноў. У тым ліку і Напалеон, і — апошнім — Гітлер. Усё знішчалася, усё разрабоўвалася”.

Якая гэта была некалі дзяржава! Беларусь, “Белая Русь” — так называецца краіна паміж Смаленскам і Брэст-Літоўскам, таму што яна, згодна аднаго з этымалагічных тлумачэнняў гэтай назвы, у часы татара-мангольскага нашэсця заставалася свабоднай: захопнікі баяліся ўваходзіць у край балот. Па іншым тлумачэнні корань “белы” мае адносіны да вельмі светлага колеру скуры і валасоў карэнных жыхароў. Ці, магчыма, краіна атрымала сваю назву па колеры адзення — аўчынных футраў, ільняных спадніц жанчын і сарочак мужчын (...)? Беларуская мова, адрозная ад рускай, украінскай і польскай, была пяцьсот гадоў таму назад дзяржаўнай мовай Вялікага княства Літоўскага. Нацысты, якія імкнуліся адабраць гэтую ўраджайную зямлю ў рускіх, палічылі патрэбным адлюстраваць гэта і ў мове: яны называлі яе Weigruthenien — Беларутэнія.

Як жа магло тут развіцца пачуццё нацыянальнай еднасці, калі Сталін русіфікаваў краіну, калі нават цяперашні прэзідэнт, здаецца, лічыць сваю родную мову недастойнай і ледзь не ў штодзённых выступленнях па тэлебачанні гаворыць па-руску — з моцным беларускім акцэнтам. “Далоў Лукашэнку!”, “Жыве Беларусь!” — ускліквалі амаль 30 000 дэманстрантаў 24 сакавіка ў Мінску. Яны стараліся перашкодзіць праводзімай па-прарускую настроеным “бацькам” палітыцы цеснай інтэграцыі краіны, якая мае вялікую запазычанасць, з Расіяй; тым часам гэта інтэграцыя робіцца фактам.

●

А хто такі Янка Купала, у доме якога, пераабсталяваным пад музей, мы знаходзімся? Сын арандатара, нацыянальны паэт, ён — разам з другім нацыянальным паэтам, сынам лесніка Якубам Коласам, — адрадзіў літаратуру Беларусі да новага жыцця. Ці вінавата ў яго гібелі ў 1942 г. сталінская тайная паліцыя — магчыма, менавіта яе людзі выкінулі паэта з яго нумара ў гасцініцы? Ці, магчыма, ён сам у адчаі кінуўся ў лесвічны пралёт гасцініцы “Масква”, куды яго “запрасілі”?

Толькі цяпер я ўпершыню чую гэтае імя — Янка Купала, чытаю вершы, выстаўленыя ў вітрыне, у тым ліку і на нямецкай мове, і мне сорамна перад перакладчыцай, старанней чытальніцай нямецкай літаратуры, выкладчыкам вышэйшай школы, якая памагае маладым людзям прабірацца скрозь нетры нямецкай марфалогіі і сінтаксісу і працуе ў вольны час у Інстытуце імя Гётэ, дзе яна займаецца перакладам з адной мовы на іншую.

●

У гэтай краіне, у гэтым горадзе, які ці не дашчэнту быў разбураны германскім вермахтам (ацалела зусім мала дамоў), лёгка сябе не адчуеш. Інстытут імя Гётэ ў Мінску? Нават чалавеку, які правеў у гэтым горадзе, амаль цалкам наноў адбудаваным пасля 1944 года, усяго адзін тыдзень, ніводнае месца на зямлі не падасца менш адпаведным для гэтага, — але і, калі мы хочам захаваць мір, больш важным для справы прымірэння і ўзаемаразумення.

Тыя, хто спыняецца ў гасцініцах “Планета” ці “Юбілейная” (...), не менш за два разы на дзень праходзяць паўз шэры бетонны конус, які выступае са снежных гурбаў. Тут у 1942 г. канчаўся горад. Тут у 1941 г. было гета. Тут сядзелі нямецкія салдаты і стралялі па ўсім, што рухалася. Тут забівалі “з размахам”, з нямецкім размахам: за тры гады акупацыі было забіта 700 000 чалавек, прычым 150 000 толькі ў цэнтральных раёнах горада; 70 000 чалавек было вывезена ў Германію.

●

Кіламетраў за шэсцьдзесят на паўночны ўсход ад Мінска знаходзілася да 22 сакавіка 1943 года маленькая вёсачка Хатынь. Было ў ёй 26 дамоў, жывапісна раскіданых на вялікай паляне сярод бярозавых лясоў, і 156 жыхароў. У той дзень, 53 гады назад, у Хатынь прыбыў генерал-маёр доктар Дырлевангер са сваёй брыгадай, у якую ён прымаў таксама і прафесійных злачынцаў і калабарацыяністаў. Жыхароў сагналі ў вялікую адрыну. Потым драўляны будынак падпалілі, і людзі, што знаходзіліся ў ёй, у тым ліку дзеці, зажыва згарэлі разам з ёй. Фюрэр асабіста ўручыў пану Дырлевангеру за гэты “подзвіг” — і за вынайдзеную ім “тэхналогію ачысткі” мінных палёў, якая складалася з таго, што па замініраваных участках праганялі жанчын і дзяцей, — Германскі Залаты крыж. За гэта ж да першай узнагароды ў 1944г. дадалася і другая — “Рыцарскі” (!) крыж да Жалезнага крыжа.

Сёння Хатынь — гэта мемарыял, які не мае сабе роўных у сваёй строгай манументальнасці. Бетонам памечаны абрысы кожнага дома. Да зноў узведзеных комінаў прымацаваны шыльдачкі з імёнамі згарэўшых жыхароў. На кожным коміне гайдаецца невялікі звон, ціхія ўдары якога адбіваюцца кожныя трыццаць секунд. Удзень і ўначы. Жалобны — і ў той жа час, у самоце лясоў і ўзгоркаў — ён нясе суцяшэнне па загнаных у вогненную пашчу вёсцы.

Хатынь — гэта яшчэ і “могілкі вёсак”: 186 невялікіх гранітных блокаў нагадваюць пра кожную са знішчаных і не адноўленых вёсак Беларусі. Пра гэта апавядаюць таксама тры бярозы і полымя над чорнай мармуровай плітой: у краі бяроз Беларусі ў вайну загінуў кожны чацвёрты.

●

І вось тут — Інстытут імя Гётэ. Што ж бачым мы, вярнуўшыся з Хатыні, на экране кінатэатра, арандаванага Інстытутам імя Гётэ на гэтыя дні? Гітлера. “Сервільнае мастацтва” — так называецца кінапраграма, якая складаецца з фільмаў пра Лені Рыфеншталь, Арно Брэкера і кампазітара Норберта Шульца, які напісаў “Лілі Марлен”. На сваёй першай пасадзе ў якасці дырэктара вялікага інстытута Вера Багальянц не спыняецца перад рызыкай — і выйграе.

Пасля дэманстрацыі кожнага з трох дакументальных фільмаў пра мастакоў, якія звязаліся з моцнымі свету гэтага, праходзілі бурныя, часам жорсткія дыскусіі — сярод гледачоў. А ці ж не было такога і ў нас — такіх вось напоўненых радасці фільмаў, выяў герояў, патэтычных песнаспеваў? Чаму маладыя нямецкія кінематаграфісты могуць без азлобленасці, але крытычна задаваць такія пытанні, а ў нас яны ўсё яшчэ табуізаваны ці ўжо паспелі зноў перайсці ў разрад непажаданых?

З дапамогай берлінскага кіназнаўцы Клаўдзіі Ленсен, якая з вялікай эрудыцыяй каментавала фільмы і цярпліва адказвала на пытанні, Вера Багальянц змагла прадставіць свой афіцыйна нават яшчэ не адкрыты інстытут у Мінску так, як гэта робіць цяпер — зусім натуральна, знаходзячы поўнае адабрэнне мясцовага насельніцтва, — маладое пакаленне прадстаўнікоў Інстытута імя Гётэ: зыходзячы з тэзіса, што культура і палітыка — гэта не два вечныя антаганісты, а партнёры. Гэтыя тры вечары з'явіліся своеасаблівай рэкламай дэмакратычнай Германіі, якая публічна вырашае канфлікты; многія гледачы дзякавалі за яе са слязьмі на вачах, а некаторыя ў знак удзячнасці цалавалі руку.

Супрацоўнікі, якія мерзнуць нават у футрах, цёплых шапках і пальчатках у настылым (...) будынку Саюза пісьменнікаў на вуліцы Фрунзе, дзе часова размяшчаецца інстытут, вясёлая і энергічная, як гэта часта бывае ў мясцовых аддзяленнях Інстытута імя Гётэ, жаночая каманда, узяліся за важную для Беларусі і Германіі тэму дзесятай гадавіны чарнобыльскай катастрофы, прысвяціўшы ёй зроблены пад уласную адказнасць мастацкі фільм пра Зону смерці, спектакль і выстаўку “Рэха маўчання”, якая была адкрыта ў Мінску 18 красавіка. Прэм'ера спектакля “Помні!” — пра ўражанні падлеткаў, якія па запрашэнні адпачывалі ў Германіі, — адбудзецца ў Мінску 24 красавіка.

Хвалюючы фільм “Аазіс”, зняты на беларускай Галгофе вядомым рэжысёрам Юрыем Хашчавацкім з падтрымкай Інстытута імя Гётэ, будзе паказаны 21 красавіка па беларускім і 27 красавіка на расійскім тэлебачанні; 26 красавіка паказам гэтага фільма адкрыецца Міжнародны фестываль дакументальнага кіно ў Мюнхене, а 25 красавіка ён будзе паказаны ў рамках прысвечанага Чарнобылю тэматычнага вечара тэлеканала “АРТЭ” (гаворка ідзе пра мінулы год. — “ЛіМ”.). Кожнаму, хто хоча пазнаёміцца з рэчаіснасцю Беларусі, на зямлю якой апусцілася семдзесят працэнтаў смертаноснага попелу, варта было б убачыць вобразы, твары людзей, якія жывуць там больш ці менш тайком, пейзажы ў іх ідылічнай, атручанай радыяцыяй прыгажосці. І пачуць разважанні бадзяга-філосафа, які жыве ў глухамані, Валодзькі Кандакова — помнячы пры гэтым словы беларускага паэта Алеся Разанава, які напісаў пра квітнеючы буйным цвятам пазначаны смерцю край: “Мы ёсць, каб не быць”.

Павел САКОВІЧ

# Эпіграмы, як рэкламы

*Міхаі' ПТАШУК,*
*кінарэжысёр*

**Яго таксама выбраў час,**
**Зрабіўшы пільным кінавокам,**
**Хаця цяпер разглядваць нас —**
**Відаць сумоцце, ды й марока.**

**Ён у савецкім часе рос,**
**А фільмы, гляньце, зняў якія:**
**“Наш бранепоезд”**
**і “Палітбюро”...**
**Вось і кажыце — “насталыгія”?**

*Леанід СУШКЕВІЧ,*
*старшыня БРК прафсаюза работнікаў культуры і мастацтва*

**Зірнеш на яго —**
**проста бос**
**прафсаюзны:**
**Паважны,**
**злыселы**
**і крышачку грузны.**
**Але разам з тым,**
**Леанід артыстычны,**
**Яшчэ маладжавы**
**і фотагенічны.**
**Здзіўляцца не трэба,**
**бо ў творчых**
**саюзах**
**Ён добра вядомы**
**служыцелям музаў.**
**Ён творцу любога...**
**з нагоды**
**прывеціць,**
**Расток новы музы**
**ягонай прыкмеціць.**

**Зусім неблагое**
**ў яго аздабленне:**
**Пасады**
**з асобай жывой**
**супадзенне!**

*Уладзімір РЫЛАТКА,*
*першы намеснік міністра культуры*

**Прыгожы з выгляду Рылатка**
**І выступае вельмі гладка.**
**Падумаеш міжволі, братка,**
**Што і ў мастацтве**
**усё ў парадку...**

*Расціслаў БУЗУК,*
*дырэктар тэатра музкамедыі*

**Дала фартуна**
**шанц яму сама —**
**Тэатрам кіраваць паслала.**
**У Бузука цяпер**
**“відовішч” цьма,**
**Ды “хлеба”, як заўсёды, мала.**

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ
Саюз беларускіх пісьменнікаў;
рэдакцыя газеты
"Літаратура і мастацтва"

ВЫХОДЗІЦЬ
З 1932 ГОДА

Галоўны рэдактар
Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Мікола ГІЛЬ — намеснік галоўнага рэдактара
Міхась ЗАМСКІ,
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,
Жана ЛАШКЕВІЧ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Барыс ПЯТРОВІЧ — першы намеснік галоўнага рэдактара,
Юрась СВІРКА,
Віктар ШНІП — адказны сакратар

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667

Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)
Індэкс 63856.
Наклад 4463
Нумар падпісаны ў друк 24.4.1997 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 2388/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12